E-mail: nchas@promedia.by

# Новы Час

№ 13 (18) БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ВЕРАСЕНЬ 2003 ГОДА *ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63773* http://nchas.iatp.by

## Навіны

### Крыж сасланых у Сібір

Польскі сейм на мінулым тыдні прагаласаваў за заснаванне Крыжа сасланых у Сібір. З гэтай прапановай выступілі дэпутаты Польскай Народнай партыі. За прыняцце прапановы прагаласалі 398 дэпутатаў сейма, супраць быў адзін голас. Крыж будзе прысвойвацца грамадзянам Польшчы, сасланым у Сібір, Казахстан і на поўнач Расіі ў 1939–1956 гадах «як даніна іх пакутам і вернасці ідэалам свабоды і незалежнасці». Інакш кажучы, Крыж сасланых у Сібір атрымаюць ахвяры сталінскіх рэпрэсіяў, у большасці сваёй гэта будуць ураджэнцы Заходняй Беларусі. На паседжанні сейма прагучалі звесткі, што ў 1939–1941 гадах і пасля 1944 года у Сібір, Казахстан і на поўнач Расіі было саслана 1,5 мільёны палякаў і што на сённяшні час у гэтых рэгіёнах пражывае каля 100 тысяч палякаў. Ссылкі пасля 1944 года адбываліся з тэрыторыі, якая ўваходзіла у БССР і УССР. У нас тыя нашыя грамадзяне, якіх ссылалі за нежаданне ісці ў калгасы, ці «як сацыяльна небяспечны элемент», не дачакаліся нават фармальнага прабачэння ад імя дзяржавы. Не дзіўна, што яны прымаюць за лепшае лічыцца палякамі.



# Полацкі густ




Вось так выглядае яшчэ адна новая незвычайная аздоба старажытнага Полацка - помнік літары «Ў». Аб гэты напамінак пра ўласны алфавіт ужо патачылі свае зубкі шматлікія майстры гумару і сатыры і, відаць, у будучыні памятны знак «у» кароткаму будзе заставацца аб`ектам дзівавання турыстычнай публікі. Можа з цягам часу створыцца і прысвечаная яму «Анталогія». Аўтар знака – галоўны мастак Полацка Ігар Куржалаў. На пліце змешчаны два радкі з верша Рыгора Барадуліна «Полацкі менталітэт». Фотаздымак Віталя Гаўрылава

## Латышы за Еўрапейскі Саюз

На рэферэндуме па пытанні ўступлення ў Еўрапейскі Саюз, які прайшоў у Латвіі ў мінулую суботу, большыня грамадзянаў краіны выказалася за ўваход у ЕС. У рэферэндуме прынялі ўдзел 1.002.256 чалавек, ці 72,53 працэнты выбаршчыкаў. З іх за ўступленне ў ЕС выказаліся 66,9 працэнта, супраць – 32,7 працэнта выбаршчыкаў. Прэзідэнт Латвіі назваў гэтакія вынікі галасавання трэцяй гістарычна важнай падзеяй у навейшай гісторыі краіны пасля атрымання незалежнасці ў міжваенны перыяд і аднаўлення незалежнасці ў 1991 годзе. Рэферэндумы, якія прайшлі раней у Славеніі, Венгрыі, Славакіі, Польшчы, Чэхіі, Эстоніі і на Мальце, а цяпер і ў Латвіі, паказалі што насельніцтва гэтых краінаў згоднае ўвайсці у ЕС. Гэтыя дзяржавы і Кіпр, дзе рэферэндум не праводзіцца, стануць чальцамі Еўрасаюза 15 мая 2004 года. У ЕС тады будзе 25 краінаў.

## Арэндатары пакінуць школы

Мінскі гарвыканкам вырашыў забараніць школам здаваць у арэнду свае памяшканні недзяржаўным фірмам.

У Мінску такімі арэндатарамі былі звыш 350 камерцыйных адзінак. Большыня прыватных прадпрымальнікаў занятыя аказаннем паслугаў, непасрэдна звязаных з патрэбамі школьнікаў: яны вядуць дадатковыя курсы замежных моваў, танцавальныя класы, спартыўныя секцыі. Па пальцах можна пералічыць школы, дзе арэндаваныя памяшканні выкарыстоўваюцца пад аптэку, цырульню ці аўтамайстэрню. Але і ў гэтым выпадку цяжка зразумець, як яны могуць перашкаджаць навучальнаму працэсу.

На здачы памяшканняў у арэнду мінскія школы зараблялі больш за 850 мільёнаў рублёў, якія большай часткай ішлі на рамонт класных пакояў, пакупку школьнага абсталявання, камп'ютэрнай тэхнікі, усяго таго, што патрэбна школе і на што Міністэрства асветы не мае неабходных фінансавых рэсурсаў.

Калі рашэнне Мінгарвыканкама будзе выканана, школы страцяць шматлікія гурткі, курсы, клубы, якія зараз дапамагаюць заняць вольны час дзяцей. Ніякай разумнай замены гарадскія ўлады прапанаваць дзецям не змогуць. Нельга – бо нельга, вось і ўся ідэя. Забарона арэнды адаб'ецца вялікімі матэрыяльнымі стратамі камерцыйных структураў, якія наладзілі там сваю працу, адрамантавалі памяшканні, абсталявалі іх адпаведнай тэхнікай. Але больш за ўсіх страцяць дзеці, бо пазбавяцца зручных умоваў для разнастайных дадатковых заняткаў.

Святлана ПАШКЕВІЧ

# Імша ў Курапатах



Напрыканцы жніўня ў Курапатах пратаірэй Леанід Акаловіч правёў для вернікаў службу за памяць пакутнікаў. На службе прысутнічалі архіепіскап Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай народнай царквы (незарэгістраванай) Юры Рыжы, айцец Роберт, дзякан Сяргей. Святары таксама асвяцілі Курапацкія крыжы на месцы масавых рэпрэсіяў.

# Мазырская тэхналогія

У Мазыры па «эканамічных» падставах пракладку газаправода вядуць праз габрэйскія могілкі. Яшчэ ў жніўні на месцы пахаванняў быў выкапаны катлаван. Будаўнікі, пракладваючы траншэю, натыкнуліся на мноства чалавечых парэшткаў і спарахнелых трунаў. Трэба зазначыць, што могілкі маюць статус гісторыка-культурнай каштоўнасці. Там знаходзяцца брацкія пахаванні з часоў Другой сусветнай вайны. На ўскрайку гэтага месца у першыя гады акупацыі нацысты расстралялі каля тысячы ўдзельнікаў супраціву і мірных жыхароў. На тое ёсць адпаведны акт, складзены ў 1944 годзе пасля вызвалення Мазыра. Тым не менш, гарадскія ўлады дазволілі пракладку дзвюх нітак газаправода. Трубы будуць ужывацца для транспартыроўкі расейскага прыроднага газу. Разам з будаўнікамі сюды прыйшоў і пошукавы батальён Міністэрства абароны Беларусі, які вядзе раскопкі на месцах масавых расстрэлаў.

З адкрытым лістом да міністраў абароны, аховы здароўя, культуры, унутраных справаў і генеральнага пракурора звярнуўся старшыня Сусветнай арганізацыі беларускіх габрэяў, які зазначыў, што Мазырскі гарвыканкам дазволіў узвядзенне гаспадарчых пабудоваў у ахоўнай зоне «без узгаднення з дэпартаментам па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры».

Нягледзячы на пратэсты пракладка газаправода па старых магілах працягваецца.

*Ядвіга МАЦКЕВІЧ*

# Тэрыторыя здароўя

Мінскі гарадскі Дзіцячы парк імя Горкага, які значна папрыгажэў пасля рэканструкцыі, стане яшчэ больш прывабным. Гэтаму паспрыяе рашэнне Партызанскага райвыканкама сталіцы, згодна з якім парк будзе тэрыторыяй, свабоднай ад палення. У самым старадаўнім парку горада забароняць продаж тытунёвых вырабаў і паставяць шчыты, якія будуць нагадваць пра забарону паліць. Гэтае рашэнне аднак не спрацуе, калі міліцыя не будзе штрафаваць аматараў забруджваць паветра нікатынавым дымам.

# Гістарычны цэнтр Мінска аздобяць паркінгамі

Менчукі, якія жывуць ці працуюць у цэнтры Мінска, любяць паркаваць машыны побач жылля ці месца працы. Прыпаркавацца дзе папалей лічыцца дрэнным густам. Ідучы насустрач паркінгавам бізнесу Камітэт архітэктуры і землеўпарадкавання Мінгарвыканкама прапанаваў некалькі ўчасткаў для будаўніцтва сучасных шматпавярховых паркінгаў.

Адзін з'явіцца на Нямізе, на месцы, дзе яму забаронена быць па ўсіх міжнародных канвенцыях аховы гістарычных цэнтраў гарадоў. Але ўлады лічаць, што ён выдатна «упішацца» ў гістарычную забудову, бо архітэктары нібыта прадугледзелі стылістычнае адзінства новых і старых будынкаў Мінска. Другі паркінг размесціцца на вуліцы Мясніколва недалёка ад тэатра музычнай камедыі. Яшчэ адну шматпавярховую стаянку для машын з забаўляльным цэнтрам для іх гаспадароў плануюць збудаваць у двары кінатэатра «Перамога» на месцы цяперашняй летняй кіназалі. Толькі адзін паркінг з'явіцца на патрэбным месцы – на тэрыторыі Цэнтральнага аўтавакзала.

**У чацвер, 25 верасня, у вялікай зале Дома літаратара (вул.Фрунзэ, 5) адбудзецца юбілейная творчая вечарына *Уладзіміра Арлова***

**«Тэрыторыя свабоды»**

**Удзел бяруць Алесь Пашкевіч, Лявон Баршчэўскі, Адам Глобус...**
**Песні і гістарычныя балады спявае Зміцер Бартосік**
**Чакаюцца нечаканкі. Уваход вольны**
**Пачатак у 18.30**

# Украінскі погляд на АЭП

Як вядома, 19 верасня ў Ялце прэзідэнты чатырох дзяржаваў падпісалі пагадненне аб стварэнні Адзінай эканамічнай прасторы (АЭП). Ідэя АЭП нарадзілася ў Маскве на Дзень абаронцы Айчыны – 23 лютага 2003 года. Менавіта тады пад звон бакалаў Уладзімір Пуцін зрабіў палітычную прапанову Леаніду Кучме, Аляксандру Лукашэнку і Нурсултану Назарбаеву. А ўжо праз пяць месяцаў урады Украіны, Расіі, Беларусі і Казахстана закончылі падрыхтоўку праекта пагаднення па стварэнні АЭП.

Украіна пры падпісанні гэтага дакумента дамагалася ўнясення папраўак пра «рознавектарны і рознахуткасны характар» інтэгравання ў АЭП. Пазіцыя Кучмы адлюстравала стаўленне да гэтага пагаднення украінскай апазіцыі.

За неакольki дзён да Ялты на сесіі Вярхоўнай Рады дэпутаты аналізавалі магчымыя геапалітычныя і сацыяльна-эканамічныя наступствы для Украіны ад уваходжання ў АЭП. Старшыня камітэта Вярхоўнай Рады па пытаннях еўрапейскай інтэграцыі, дэпутат Барыс Тарасюк раскрытыкаваў урад за тое, што праект пагаднення аб ўваходзе Украіны ў АЭП падзены парламенту на рускай мове.

Віцэ-прэм'ер урада Украіны Мікалай Азараў папрасіў апанентаў адмовіцца ад ацэнак расійскіх суседзяў як нейкіх носьбітаў зла ў адносінах Украіны, а таксама ад ілюзіяў, што далучэнне да Еўрапейскага Саюза цудоўным чынам прывядзе да росквіту Украіны. Прадстаўнік дэпутацкай групы «Дэмакратычныя ініцыятывы» Сяргей Ратушняк запярэчыў: «Чаму мы хочам зноў абдымацца з Расеяй? Мы 500 гадоў з імі былі ў абдымках, і ў прынцыпе росквіту так і не дачакаліся».

Экс-прэм'ер Віктар Юшчанка заявіў аб тым, што «прапануецца стварэнне наддзяржаўнага рэгулюючага органа, рашэнні якога з'яўляюцца абавязковымі для ўсіх бакоў. Гэта з'яўляецца стратай суверэнных правоў у сферы фінансаў, гандлю, фіскальнай і манетарнай палітыкі». Першы прэзідэнт Украіны Краўчук таксама адзначыў, што цяперашні варыянт пагаднення прадугледжвае пэўнае абмежаванне дзяржаўнага суверэнітэту. У сувязі з гэтым ён прапанаваў унесці адпаведныя агаворкі ў яго тэкст, каб ясна акрэсліць дапушчальную граніцу абмежавання суверэнітэта Украіны.

Экс-прэм'ер Юлія Цімашэнка ў сваёй прамове ў прыватнасці адзначыла: «Я хачу сказаць, што паважаю РФ як мінімум за тое, што расійская Дума істотна адрозніваецца ад украінскага парламента. Я скажу, чым яна адрозніваецца. Яны могуць спрачацца па ўнутраных праблемах колькі заўгодна, але калі з'яўляецца хоць бы элементарная пагроза нацыянальным інтарэсам Расіі, аб'ядноўваюцца левыя, правыя, якія заўгодна і падымаюцца аднагалосна ў сваім галасаванні на абарону нацыянальных інтарэсаў.

Украінскі парламент ужо шмат гадоў раздзіраюць чужыя нацыянальныя інтарэсы! Напачатку мы цвёрда становімся на празаходнія пазіцыі. Калі мы здаем ядзерную зброю, калі мы без якіх-небудзь кампенсацыяў зачыняем Чарнобыль, калі мы публічна не абгаворваем умовы ўступлення ў Сусветнае гандлёвае аб'яднанне... Мы добра ведаем, калі галасуем па іракскіх праблемах, дзе знаходзяцца нацыянальныя інтарэсы Украіны і ў якіх дакументах яны прапісаныя... Калі ж узнікаюць іншыя пытанні, у тым ліку і АЭП, нас разрываюць нацыянальныя інтарэсы Расіі...». Далей Юлія Цімашэнка прывяла аргумент супраць уваходжання Украіны ў АЭП, звязаны з цэнамі на нафту і газ: «якія фарміруюцца рынкава. І сёння ў Расіі няма манаполіі на здабычу нафты і газа, таму кошты будуць выстаўляць канкрэтныя валадары, а не дзяржава».



Прадстаўнік сацыялістаў Станіслаў Мікалаенка, развіваючы такую думку, запытаў парламенітарыяў: «Ці будзе ўкраінцам жыць лепей, калі замест удаўкі ўкраінскіх алігархаў нас будуць душыць украінскія і расійскія алігархі разам – беразоўскія, гусінскія, чубайсы і г. д.?»

Міністр эканомікі і па пытаннях еўраінтэграцыі Валер Харашкоўскі таксама выказаў сумнеў у тым, што Расія пойдзе на паніжэнне цэнаў на энерганосьбіты ў рамках АЭП, бо на працягу 9 гадоў перамоваў з Масквой Кіеву не ўдалося дамовіцца аб нізкіх цэнах на энерганосьбіты для сябе.

Таксама украінцы непакояцца, што ў выпадку больш шчыльнай інтэграцыі з Расіяй у сферы эканомікі расійскі капітал зможа паспяхова канкураваць з данецкім за ўдзел у прыватызацыі аб'ектаў чорнай і каляровай металургіі.

Усё разам прывяло да ўключэння ў тэкст Ялцінскага пагаднення дадатковых умоваў, якія ператварылі яго ў дакумент аб намерах. У прыватнасці, адзіны рэгулюючы орган АЭП рашэнні па ўсіх пытаннях прымае ўзважаным галасаваннем, а колькасць галасоў кожнага з бакоў вызначаецца з улікам яго эканамічнага патэнцыялу. Размеркаванне галасоў устанаўліваецца на падставе пагаднення бакоў. (Гэта значыць, што Расія заўжды будзе дамінаваць.) Каб змякчыць жорсткасць такога становішча, у дакуменце запісана, што кожны з удзельнікаў пагаднення атрымаў права самастойна вызначаць свой удзел у працэсе фарміравання АЭП з улікам гатоўнасці сваіх дзяржаў да далейшага паглыблення інтэграцыйных працэсаў. Рэалізацыя пагаднення будзе насіць паэтапны характар і аднесена на некалькі гадоў, за якія шмат што можа змяніцца.

*Павел БАРАНОЎСКІ*

# Арэндатарам будзе Чубайс

РАТ «АЭС Расіі» мае намер атрымаць у арэнду Бярозаўскую ГРЭС у Беларусі Аб гэтым на мінулым тыдні на прэс-канферэнцыі заявіў старшыня РАТ Анатоль Чубайс. Ён падкрэсліў, што разглядаецца магчымасць атрымання ў арэнду як усёй станцыі, гэтак і яе асобных энергаблокаў з іх наступнай мадэрнізацыяй і павялічэннем магутнасці. Кіраўнік энергахолдынгу падкрэсліў, што рэалізацыя праекта дазволіць павялічыць бягучыя пастаўкі электраэнергіі ў Польшчу ў 1,5 разы, а магчымыя інвестыцыі акупяцца на працягу года.

# Малдова пачулася пакрыўджанай

Прэс-служба прэзідэнта Малдовы распаўсюдзіла заяву прэзідэнта Уладзіміра Вароніна, у якой адзначаецца, што нядаўняе пагадненне аб стварэнні адзінай эканамічнай прасторы Расіі, Украіны, Беларусі і Казахстана «назаўжды адкідвае ідэю аб мадэрнізацыі СНД». На думку малдаўскага прэзідэнта, прэзідэнты чатырох краінаў, падпісваючы эканамічнае пагадненне, не ўлічылі інтарэсы іншых дзяржаваў Садружнасці, і таму ён не выключае, што яго краіна можа выйсці з СНД і дамагацца больш шчыльнай інтэграцыі з Еўрапейскім Саюзам.

# Польшча скарачае тэрмін вайсковай службы

Абавязковая вайсковая служба ў Польшчы з 1 ліпеня 2005 года будзе складаць 9 месяцаў. Такое рашэнне прыняў Польскі сейм. Першыя тры месяцы службы польскія салдаты будуць праходзіць падрыхтоўку ў спецыяльных ваенных вучэльнях, а потым несці вайсковую службу. Варта нагадаць, што цяпер абавязковая вайсковая служба ў польскай арміі складае 12 месяцаў. Навінка са скарачэннем службы ў Войску Польскім звязана з с прыстасаваннем яго да стандартаў НАТО.

# Таямніца снежнага чалавека

Японскі альпініст Макота Небука сцвярджае, што легендарны йеці, снежны чалавек з Гімалаяў, гэта буры гімалайскі мядзведзь. Небука разгадваў таямніцу загадкавай істоты 12 гадоў, выязджаў у эспедыцыі ў тыя раёны, дзе адзначаліся сляды йеці. Зараз у Токіо прайшла прэзентацыя ягонага даследавання. Апроч унікальных фотаздымкаў, Небука прывёў яшчэ і лінгвістычныя аргументы. У прыватнасці, інтэрв'ю з жыхарамі Непала, Тыбета і Бутана паказалі, што «йеці» – гэта скажонае «мецi», «мядзведзь» на мясцовым дыялекце.

# Эстонцы любяць стабільнасць

Акцыянернае таварыства Eesti Gaas працягнула доўгатэрміновую дамову аб пастаўках прыроднага газу з расейскім «Газпромам» яшчэ на 10 гадоў, да 2015 года. Пра гэта паведамляе прэс-служба кампаніі. Тэрмін дзеяння цяперашняй дамовы заканчваецца ў 2005 годзе і, як упэўніваюць кіраўнікі Eesti Gaas, да вызначанага часу не зменіцца. За першую палову гэтага года Eesti Gaas паставіў у краіну 433 мільёна кубаметраў газу. Абарот кампаніі за гэты тэрмін склаў 669 мільёнаў крон (больш за 40 мільёнаў даляраў).

Акцыянерамі Eesti Gaas з'яўляюцца: «Газпром» – 37%, нямецкі «Ruhrgas» – 33,4%, фінскі «Soome Fortum Oil&Gas» – 17,7%, «Itera Latvija» – 9,75% і шэраг дробных акцыянераў.

# Польская дэмаграфія

Як паведаміла польская газета Rzeczpospolita, у мінулым годзе у Польшчы нарадзіліся 353,7 тысячы дзяцей, што на 14,4 тысяч менш, чым год таму. Пры гэтым 14 працэнтаў з агульнага ліку немаўлят – пазашлюбныя дзеці. На працягу 2002 года 1018 маці пакінулі сваіх дзяцей у радзільных дамах. Гэта ў два разы болей у параўнанні з папярэднім годам. Усяго летась у Польшчы памерла на 5,72 тысячы чалавек болей, чым нарадзілася.

# Гістарычная майстэрня

## Асэнсаванні даўніны простымі людзьмі супрацьстаяць беспамяцтву

**Гістарычная майстэрня – не вельмі звыклае для беларускага вуха словазлучэнне. У 60–70 гады яны ўзніклі сярод нямецкіх гісторыкаў і навукоўцаў як свайго роду супрацьвага акадэмічнай навуцы. Апірышчам «гістарычнай майстэрні» стаў рух знізу, калі звычайныя людзі, зусім не «штатныя» гісторыкі, але якія таксама хочуць ведаць, што было раней, збіраліся разам, выдавалі газеты, даследавалі мінулае сваёй краіны, свайго народа, спрабавалі ацэньваць даўніну і вучыцца на «ўроках гісторыі». Гэты досвед стаў прыкладам для стварэння падобных «майстэрань» практычна ва ўсёй Еўропе.**

**Упершыню не абшарах былога СССР такая майстэрня была адкрыта ў Мінску 21 красавіка гэтага году. Месціцца яна на вул. Сухой, 25, побач з Юбілейнай плошчай. У гады вайны у гэтым раёне Мінска было гета. Майстэрня мае музей, канферэнц-залу, бібліятэку і архіў. Стваральнікамі гістарычнай майстэрні выступілі тры бакі: Міжнародны адукацыйны цэнтр у Дортландзе (Германія), Мінскі міжнародны адукацыйны цэнтр (IBB) і Саюз беларускіх габрэйскіх абшчынаў. Кожны другі аўторак тут ладзіць свае сустрэчы клуб «Гісторыка», неўзабаве пачне працу Краязнаўчая школа для вучняў, настаўнікаў, студэнтаў і выкладчыкаў з усёй Беларусі.**



Пра канцэпцыю дзейнасці майстэрні і яе бліжэйшыя задачы распавядае дырэктар Гістарычнай майстэрні, **дацэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта Кузьма Козак**

– Калі з'явілася ідэя адкрыць майстэрню, мы разам з нямецкім бокам шукалі будынак, звязаны з гісторыяй. І ўлічваючы тое, што самы цяжкі дыялог паміж Беларуссю і Германіяй – гэта дыялог ваенны, мы спыніліся на гэтым адрасе – **Мінск, Сухая, 25**. Зараз шмат у чым наша праца абумоўліваецца тым, што майстэрня знаходзіцца на месцы былога мінскага гета. Тут было мала беларускіх габрэяў, большыню прывозілі з суседніх краінаў на цягніках на станцыю Таварную, пасля машынамі адвозілі сюды. Тут яны жылі некалькі месяцаў, а потым гналі ў Трасцянец, у лагер смерці.

Таму на першым этапе дзейнасці мы плануем заняцца распрацоўкай і даследаваннем гісторыі канцлагера ў Трасцянцы. У Германіі вельмі мала вядома пра гэту праблему. Нас цікавіць даследаванне гісторыі Мінскага гета, і наогул мы спадзяемся, што будзе кола цікавых праектаў, што праз дзейнасць маладых спецыялістаў, маладых гісторыкаў будуць знойдзены партнёры, пашырацца сувязі.

**– Першая асацыяцыя са словам «майстэрня» – месца, дзе нешта ствараецца на вачах, гэтак мовіць, фізічна. Чаму для назвы было выбрана менавіта гэта слова?**

– Я ўпэўнены, што такая назва не выпадковая. Калі, напрыклад, узяць Францыю, то там такія месцы называліся «гістарычнымі лабараторыямі». Для мяне гэта значыць, што тут утвараецца нейкая таямніца. У Германіі такія лабараторыі, ці калі быць дакладнымі ў перакладзе, прадпрыемствы, ёсць у кожным горадзе.

Гэта месца не для акадэмічных гісторыкаў, гэта менавіта майстэрня, дзе збіраюцца пісьменнікі, краязнаўцы, аматары старажытнасці. Зараз у Германіі падобныя ўстановы вельмі шмат увагі прысвячаюць працэсам, якія адбываліся ў ГДР, у прыватнасці, пытанню ідэалагічных рэпрэсій. Гэта выклікае вялікую цікавасць грамадства. Таксама такія майстэрні выдаюць вельмі шмат газет, часопісаў, ладзяць выставы, імпрэзы. Адносна такой дзейнасці майстэрні мы будзем браць прыклад з нашых нямецкіх калегаў.

**– Якую працу, спадар Козак, атрымалася наладзіць на дадзены момант і што плануецца на бліжэйшую будучыню?**

– Ужо зараз практычна кожны месяц мы праводзім мерапрыемствы. Ініцыятыва ў нас нараджаецца «знізу». Напрыклад, была прапанова, звязаная з датай 1 верасня – пачатак Другой сусветнай вайны. Цікава было паглядзець, якая роля ў гэтых падзеях належала Беларусі. Затым у кастрычніку гэтага году мы спланавалі пэўныя мерапрыемствы ў сувязі з трагедыяй падчас ліквідацыі Мінскага гета ў 1943 годзе. У лістападзе 1941 году быў утвораны лагер смерці Трасцянец, і мы таксама плануем канферэнцыю, прымеркаваную да гэтай даты.

У верасні мы пачынаем праект «Краязнаўчая школа», у рамках якога плануецца правесці вучнёўскі з'езд краязнаўцаў. Гэтая школа будзе заахвочваць у асноўным маладых людзей. Мы жадаем іх навучыць працаваць з дакументамі, пошуку дакументаў і разнастайных крыніцаў, а таксама методыкам захавання помнікаў матэрыяльнай культуры. Першае паседжанне школы адбудзецца ў нас у музеі Вялікай Айчыннай вайны, дзе больш будзе надавацца ўвага практычнаму боку краязнаўства. У Мінску ёсць добрая база для гэтага і выдатныя спецыялісты. Вось пазнаёміць іх усіх, аб'яднаць – гэта наша праца.

У гістарычнай майстэрні ёсць таксама цудоўная магчымасць выдання дакументаў. Напрыклад, першага верасня мы правялі навуковы семінар — кніжка выйдзе ў свет ужо 21 кастрычніка. Зараз, калі навукоўцам цяжка друкавацца, асабліва маладым, мне падаецца гэта вельмі важным. Таксама мы маем магчымасць навуковага абмену з нашымі партнёрамі з Польшчы, Чэхіі, Германіі, Украіны.

**– Хто былі першыя госці Гістарычнай майстэрні?**

– Для нас значна тое, што напачатку людзі прыйшлі сюды самі. Улічваючы, што гэта былая зона гета, прыйшлі былыя вязні. Гэтых людзей застаецца ўсё менш і менш, практычна адзінкі. Тут вельмі часта таксама бываюць дыпламатычныя работнікі з пасольстваў Германіі, Францыі, Турцыі, Ізраіля.

**– З якім гістарычным матэрыялам вам прыходзіцца працаваць? Існуе думка, што ўсё, звязанае з апошняй вайной, ужо добра даследавана. Ці сапраўды гэта так?**

– У гады вайны Мінск быў амаль цалкам разбураны. Сёння па забудове гэта напэўна самы вялікі горад «сацыялістычнай эпохі». Яшчэ такая акалічнасць: да вайны ў Мінску было 250 тысяч насельніцтва, пасля вайны засталося 50 тысяч, зараз – 2 мільёны. Хто гэтыя людзі? Якая ў іх гістарычная памяць? Калі б яны ўвесь час тут жылі, то, безумоўна, яны б інакш ставіліся да гістарычнага мінулага. А так пад новую сацыялістычную забудову ўсё было знішчана недазнішчанае вайной, і на сённяшні дзень засталіся толькі нейкія асобныя выспачкі гісторыі. На іх ніхто не звяртае ўвагу.

У Беларусі, нягледзячы на тое, што ў гета загінула 100 тысяч чалавек, няма ніводнай навуковай працы на гэтую тэму. Чаму такое бяспамяцтва?

Гэты дом, дзе месціцца Гістарычная майстэрня, захаваўся з ваенных часоў. Вельмі цяжка адбывалася перадача нам гэтага памяшкання, але ж яна стала магчымая. Раней тут быў звычайны склад. Дом быў вельмі занядбаны, але сам будынак гістарычны.

23 кастрычніка, калі плануюцца мерапрыемствы з нагоды 60-годдзя трагедыі Мінскага гета, у нас ёсць задума памясціць на гэтым доме мемарыяльную шыльду. Таму, што менавіта адсюль пачыналіся апошні шлях тысяч і тысяч людзей.

**– Якім чынам папаўняецца архіў і музей новымі дакументамі і экспанатамі?**

– У бліжэйшы час мы плануем распачаць працу па запісу ўспамінаў сведкаў вайны, пазней гэтыя дакументы будуць надрукаваны. Ствараецца архіў кіна-, фота- і фонадакументаў. У бібліятэку вельмі каштоўныя выданні ўжо зараз ахвяруюць нашыя сябры з усяго свету. З Германіі нашы студэнты прывезлі цікавейшыя здымкі часоў вайны, на якіх засведчана паўсядзённасць акупаванага горада, проста тагачаснае жыццё. Для нас гэта вельмі цікава.

Мы плануем таксама разам з нашымі нямецкімі партнёрамі дэманстраваць успаміны сведкаў вайны праз інтэрнэт. Гэта вялікі аб'ём працы.

Гутарыла
Марыя САВУШКІНА



**«Гістарычная майстэрня ў Мінску» будзе шчыра ўдзячная ўсім грамадзянам за прадастаўленне асабістых матэрыялаў, якія звязаныя з гісторыяй германскай акупацыі Беларусі ў 1941–1944 гадах (дакументы, фотаздымкі, успаміны, рэчы, кніжкі) для арганізацыі музея, архіва, сайта, публікацыі ў штоквартальным навуковым выданні «Гістарычная майстэрня ў Мінску». Ваша асабістая, сямейная памяць можа стаць грамадскім набыткам**

## Навіны

### Сівая легенда

На мінулым тыдні слынны польскі рэжысёр Ежы Хофман прэзентаваў у Палацы культуры і навукі ў Варшаве сваю новую кінакарціну пад назвай «Старая басня – калі сонца было Богам». У аснову сцэнара пакладзена аповесць Юзэфа Крашэўскага аб вытоках польскай дзяржавы. Сцэнарысты – Ежы Хофман і Ежы Хен – дапоўнілі яе «легендамі, якія ведаюць усе палякі з дзяцінства». Крытыка сустрэла новую стужку майстра з прахаладай, але публіка вітала стваральнікаў фільма авацыямі.

У фільме здымаліся вядомыя польскія артысты, у прыватнасці Даніэль Альбрыхскі, а таксама запрошаныя з-за мяжы украінец Багдан Ступка і расіянка Марына Аляксандрава. Ежы Хофман даўно вядомы нашаму гледачы экранізацыяй твораў Генрыха Сянкевіча «Патоп», «Пан Валадыеўскі», «Агнём і мячом», а таксама меладраматычным фільмам «Знахар».

### Краіна бібліятэк

Існуе выдатнае, але, на жаль, недастаткова вядомае свята – Дзень бібліятэк. Беларусь можа яго святкаваць з заслужаным правам. У нашай краіне ў сярэднім на 2 тысячы жыхароў прыходзіцца адна бібліятэка – гэта адзін з лепшых паказчыкаў у Еўропе. Большая частка бібліятэк знаходзіцца, зразумела, ў падпарадкаванні міністэрстваў адукацыі і культуры (школьныя, інстытуцкія, гарадскія, раённыя). У бібліятэчных сховішчах налічваецца агулам каля 250 мільёнаў кніжных асобнікаў. Прыкладна кожны трэці наведвальнік мінскіх бібліятэк – падлетак.

Можна толькі пашкадаваць, што на свята бібліятэк не прагучала звестак пра тое, які працэнт складае ў бібліятэчных фондах беларуская кніга.

### Выстава дзіцячага малюнку

На пачатку года ЗБС «Бацькаўшчына» абвясціла конкурс творчых работ пад назвай «Беларусь – гістарычныя вандроўкі». Было даслана больш за 200 дзіцячых работ з усёй Беларусі – вершы, сачыненні, малюнкі. Лепшыя літаратурныя творы ўвайшлі ў кнігу «Гістарычныя вандроўкі», якая пабачыла свет у ліпені гэтага году. А малюнкі юных мастакоў прадстаўлены на выставе, якая адкрылася ў музеі Максіма Багдановіча ў Мінску. Дзеці, чые творы прызнаныя лепшымі, атрымалі магчымасць паехаць на два тыдні ў Чэхію.

«Малюнкаў на конкурс прыйшло шмат, і можа некаторыя з іх і не дацягваюць да пераможцаў, але яны таксама вельмі цікавыя. Таму на выставе малюнкаў крыху больш, чым саміх пераможцаў,» – кажа старшыня рады ЗБС «Бацькаўшчына» Ірына Макоўская. Вызначыць найлепшыя творы дапамагаў мастак Віктар Сташчанюк.

На адкрыцці выступіла кіраўнік выяўленчай студыі школы-інтэрната №3 Мінска Вольга Ермалаева. Дзеці з гэтай школы актыўна ўдзельнічалі ў конкурсе, адлюстраваўшы, па словах настаўніцы, у творах сваю душу.

Выстава дзіцячага малюнку працягнецца да 20 кастрычніка.

Ядвіга МАЦКЕВІЧ

# Рахманы лес

***Менчукі любяць адпачыць у лесе. А лес марыць адпачыць ад менчукоў***

У Швецыі па лесе можна хадзіць толькі па спецыяльна вызначаных сцежках. Па грыбы ці маліны трэба набыць спецыяльны дазвол. Асобныя і вельмі вялікія штрафы ў гэтай лясной краіне чакаюць аматараў засмечваць прыроднае асяроддзе. У нас такой жорсткасці пакуль што няма. Таму пакецікаў, бляшанак і пластыкавых бутэлек у нашых лясах як на сметніку.

Аб праблемах аховы лесу наш карэспандэнт распытваў **галоўнага ляснічага Мінскага лясгаса Андрэя Менкевіча**.



**– Лясы часта і звычна параўноўваюць з лёгкімі. У дадзеным выпадку – з лёгкімі сталіцы. Ці ўмеюць гараджане адпачываць у лесе, з павагай ставіцца да «лёгкіх», якія стварыла прырода?**

– Усе лясы вакол горада выконваюць і ахоўную, і рэкрэацыйную функцыю. Яны таксама ачышчаюць паветра, а на іх адпаведна прыпадае вялікі цяжар двухмільённага горада. У Беларусі адзін такі вялікі горад, стаўленне людзей да лесу часта мае надта спажывецкі характар. І смецце ў лес вывозяць, і завальваюць будаўнічымі адходамі. Лянотна вывезці на звалку.

Яшчэ, калі дачнікам не хапае зямлі , лічыцца, што можна ссекчы некалькі дрэваў - не суседскія, маўляў, народныя. Пачынаюць там садзіць свае агароды, нешта будаваць. Усё гэта абавязкова ў лесе. У сябе на агародзе трымаюцца чысціні, а месца для звалак – лес. А ў нас на лясніцтва не так і шмат работнікаў лясной аховы. Уявіце сабе, калі лясніцтва пяць-сем тысяч гектараў лесу, а там усяго толькі дванаццаць леснікоў, якія атрымоўваюць зусім не зайздросныя грошы. Усё адсачыць, зразумела, не магчыма. Ездзім, ловім, агітуем. Але звычайна да людзей агітацыя не даходзіць. Завальваюць як і раней.

**– Асобны цяжар, відаць, бярэ на сябе прыдарожны лес...**

– На кожнай трасе сіламі лясгаса ствараюцца месцы адпачынку. Хоць у нас дастаткова складана з фінансаваннем, мы надаем гэтаму вялікую ўвагу. Праводзяцца абласныя конкурсы на лепшае месца адпачынку, стараемся навучыць людзей, каб яны больш цывілізавана адпачывалі. Усё гэта робіцца з вялікай доляй энтузіязму.

Аднак дошкі зрываюць, ламаюць, піляць. Па дарозе на Заслаўе ўвогуле дзіўная справа. Зрабілі там для адпачынку такія канапкі з асіны і бярозы, а таксама стол, крэслы. Літаральна праз два дні едзем – няма. І яны ж былі такія цяжкія... «Грыбкі» выразаюць. Знайшлі потым у аднаго на двары. Склалі пратакол, падалі ў суд. Толькі невядома, ці гэта дапаможа.

**– Набліжаецца зіма, вядома, што ў гэты час дарогі пасыпаюць соллю і пяском. Ці шкодзіць гэта лесу? Ці ёсць якая іншая бяда?**

– Гэта канешне адбіваецца не лепшым чынам на стане нашых лясоў. Але на сённяшні дзень самая сур'ёзная праблема – гэта працэс усыхання ельнікаў. Ён найбольш адчувальны ў нашай вобласці і ў нашым лясгасе ў прыватнасці, таму, што тэрыторыя распаўсюду яліны праходзіць якраз па Мінскай вобласці. Елка расце паўночней, і таму, напрыклад, на Гомельшчыне лясы зусім іншыя. І вось некалькі сухіх гадоў, пачынаючы з 1992, прывялі да таго, што зона гэтага дрэва адсоўваецца на поўнач. Дарэчы, елка сохне не толькі ў нас, але таксама і ў Польшчы, Літве, Расіі. Але мы гэта больш адчуваем, бо любая жывёліна, любая расліна на мяжы свайго арэала найбольш уразлівая. І да таго ж яшчэ чалавечы фактар мае свой уплыў. Елка мае паверхневую карнявую сістэму, таму можа якім-небудзь чынам паўздзейнічала меліярацыя.

Нават калі едзеш па дарозе, бачыш, што яліны стаяць часам чорныя, сухія. Мы стараемся высякаць дрэвы дзе ёсць шкоднікі. Працуюць у нас і лесапатолагі, каб папярэдзіць захворванні лесу, вывешваем сілкі. У сухія гады караеды могуць за год даць некалькі пакаленняў. Самы лепшы спосаб барацьбы – высякаць асяродак узбуджэння хваробы, каб яна не распаўсюджвалася далей. Гэта бяда. Бо высахла елка – усё мяняецца. Трэба шмат садзіць лесу. У нас колькі высечак, столькі і пасадак. Менавіта хвойных пасадак. Гэта называецца «захоўваць лесакультурны фонд». Мы абавязаны, каб плошча лесу якая была, такая і заставалася.

**– Вядома, самая вялікая небяспека для лесу – пажар. Ці адчуваецца гэтая праблема ў нашых прыгарадных лясах?**

– Паказальна, што як пачынаюцца выходныя, так і пачынаюцца ўспышкі. Прыходзіцца выязджаць, тушыць. Леснікі гэтым займаюцца. Прычына пажараў - людская неахайнасць. Кінулі запалку, не затушылі вогнішча. Калі выгараюць балоты, там жа і журавіны, і буякі – нічога не застаецца. Гэтая экасістэма фарміруецца і аднаўляецца дзесяцігоддзямі.

Некалькі гадоў таму па пастанове Савета Міністраў нашай гаспадарцы перадалі ўсе калгасныя лясы. Узровень вядзення лясной гаспадаркі ў калгасах быў вельмі нізкі. Летась, калі было гарачае надвор'е, якраз у накірунку Шабаноў, па магілёўскай шашы, там дзе вёскі Залессе, Забалаць, менавіта на былых калгасных лясах быў вялікі пажар. Загарэлася тарфяное балота. Хутчэй за ўсё людзі – грыбнікі, ягаднікі – запалілі. Літаральна ўвесь лясгас, і з Заслаўя, і з Дзяржынску, прыйшлося перавесці туды. Амаль два месяцы тушылі. А торф можа гарэць і пад снегам. Добра, што мы мелі сваю тэхніку, павыкачвалі ўсе вадаёмы ў акрузе. Леснікі і начавалі, і днём там былі. Цяжка працаваць у такіх умовах.

**– За ўсім гэтым на месцах сочаць леснікі. Якім павінен быць чалавек такой прафесіі на ваш погляд?**

– Самыя лепшыя леснікі – гэта людзі, якія прыкіпелі да сваёй працы, усё жыццё яе робяць, любяць лес і не ўяўляюць сябе ў нейкай іншай сферы. Нягледзячы на малы матэрыяльны дабрабыт, нягледзячы на тое, што ў нас і дзень працоўны не нармаваны, і пажары, і нагрузкі вялікія. «Выпадковыя» леснікі звычайна адсейваюцца.

Напрыклад, у Дзяржынскім раёне паўтара месяца таму здарыўся ўраган. Паваліла каля 126 га лесу – маладая асіна, бяроза. Зараз трэба расчышчаць, прыводзіць у парадак, уся гэта вельмі цяжкая праца кладзецца на плечы нашых работнікаў. А сілы ў людзей абмежаваныя, тым больш горад побач, і чалавек заўсёды знойдзе сабе працу.



**– А калі абыходзіцца без ураганаў, працы нашмат меней?**

– Каб падтрымліваць парадак у лесе, трэба вельмі вялікія высілкі, бо горад вялікі, найбуйнейшы ў Беларусі, а мы атрымліваем фінансаванне, як і ўсе астатнія лясгасы. Нагрузкі нашмат больш, бо процьма дачных кааператываў, многа прамысловых прадпрыемстваў. Наведванне лесу вялікае, людзі літаральна валам ідуць. Па грыбы, па ягады, зімой па елкі, сякуць не глядзяць. Мы як дзяржаўная ахова заўсёды складаем пратакол, стараемся не быць абыякавымі і да людзей, і караем, і ўгаворваем і штрафуем.

**– Якая галоўная парода ў лясах каля Мінска?**

– Галоўная – гэта яліна, ёсць дубравы, ёсць карэльская бяроза, ёсць граб, нават коркавае дрэва ёсць, «Бархат амурскі» ў Дзяржынскім раёне прыжыўся. Як дэкаратыўная расліна, канечне, коркі з яго ўжо там не збіраем. Такая біялагічная разнастайнасць.

**– А якой пародзе аддаецца перавага?**

– Мы зараз у асноўныя садзім хвойныя дрэвы. Стараемся ствараць мяшаныя пасадкі, каб пасля фармаваць складаны лес. Як паказаў вопыт, такія лясы больш устойлівыя. Таксама стараемся пры высечцы прымяняць сучасныя метады. Напрыклад, «паступовая рубка»: напачатку 30 працэнтаў, пасля яшчэ трыццаць і г.д. У выніку лес адначасова і аднаўляецца. Гэта дае эканомію сродкаў па стварэнні лясных культур, а па-другое, такі лес больш экалагічна ўстойлівы. Але каб так працаваць, неабходны сучасныя машыны, механізмы, якія дорага каштуюць.

**– У прыгарадных лясах рэдка можна сустрэць лясных жывёлаў. Ці азначае гэта, што «чалавечы фактар» бярэ сваё?**

– Калі мы іх не бачым, гэта не значыць, што іх няма. Як і ўва ўсёй Беларусі ёсць і касуля, і лось, і алень, і заяц, белкі. У Дзяржынскім раёне болей, у Мінскім адпаведна менш. На тэрыторыі Мінскага лясгаса ёсць нават паляўнічая гаспадарка.

**– Вы самі які лес больш любіце?**

– Мне сасновы лес падабаецца. А ў нас прыгожых мясцін колькі заўгодна – на любы густ. Не смецілі б людзі – было б яшчэ болей.

**Крысціна КАНОПКА**

# Ляніваму радзіць д'ябал

***Чаму нашы прадпрыемствы адрасуюць сваю прадукцыю толькі рускім, а беларусам - не?***

Раённая арганізацыя ГА «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» звярнулася да кіраўнікоў некаторых асіповіцкіх прадпрыемстваў з прапановай афармляць сваю прадукцыю на беларускай мове. Атрыманы адказы кіраўнікоў трох прадпрыемстваў.

Паводле дырэктара кансервавага завода *«этикеточная продукция была заказана в 2002 г. и получена заводом, в настоящее время нет надобности заказывать этикеточную продукцию на 2003 г. Кроме того, завод находится в тяжёлом финансовом положении»*.

Выканаўца абавязкаў дырэктара Асіповіцкага малочнага камбіната патлумачыў: *«Молочная продукция поставляется не только на рынок Осиповичского района, но и в другие регионы республики и многие потребители не знают белорусского языка и не умеют на нём читать, поэтому было принято решение наносить подписи на русском языке»*.

Адзіны адказ на беларускай мове атрымала мясцовае ТБМ ад кіраўніка акцыянернага таварыства «ДАХ», хаця ён таксама лічыць, што за межы краіны прадукцыю трэба афармляць толькі на рускай мове.

**Таццяна Барэль, Асіповічы**

Гэтая інфармацыя з Асіповічаў чарговы раз пацвярджае тое, што пераканаць беларускіх таваравытворцаў паважаць саміх сябе і беларускіх спажыўцоў амаль немагчыма. Так, застаўся без адказу і зварот 270 аматараў піва, які быў накіраваны на адрас дырэктара ААТ «Брэсцкае піва» сп. Кісяля. *«Нас здзіўляе і крыўдзіць, што ў ААТ «Брэсцкае піва» не дбаюць пра прэстыж і папулярнасць свайго піва сярод ягоных самых адданых аматараў - беларускай моладзі. З гэтай прычыны мы настойліва просім Вас выкарыстоўваць у афармленні прадукцыі Вашага прадпрыемства родную нам і Вам беларускую мову, а для новых гатункаў піва прапануем шукаць адметныя беларускія назвы»,* – пісалі берасцейцы.

Напэўна нашыя паважаныя таваравытворцы ў сваёй дзейнасці і надалей не збіраюцца ўлічваць вынікі перапісу насельніцтва 1999 году паводле якога 73,6% насельніцтва краіны вызнае сваёй роднай мовай беларускую, а 36,7% грамадзянаў карыстаюцца ёю штодня. Незасмучае іх і тое, што ігнаруючы беларускую мову пры афармленні тавараў яны парушаюць артыкул 50 Канстытуцыі, які гарантуе грамадзянам права карыстацца роднай мовай. Яны не ведаюць пра рашэнне Дзяржстандарта Беларусі пра тое, што інфармацыя для спажыўцоў павінна даводзіцца на абедзвух дзяржаўных мовах, а не толькі па-руску. Урэшце нашыя вытворцы проста не ведаюць элементарнага правіла рынкавых адносінаў – спажывец заўжды мае рацыю. Можа менавіта таму некаторыя заводы знаходзяцца ў цяжкім фінансавым становішчы! Тыя, хто змагаецца за свайго спажыўца, зараз актыўна выкарыстоўваць беларускую мову на ўпакоўках. Гэта «Беларуская кававая кампанія», Гомельскае ВА «Гідрааўтаматыка», вытворца чыпсаў – ТДА «Анега», фабрыка «Слодыч» і іншыя. Актыўна перакладаюць інфармацыю для спажыўцоў на беларускую мову замежныя таваравытворцы – кававыя кампаніі Польшчы, вытворцы салодкіх вырабаў з Германіі. Нядаўна ў Таварыства беларускай мовы звярнуліся прадстаўнікі сусветнавядомай фірмы «Дырол Кэдберы» і неўзабаве на нашым рынку з'явяцца новыя тавары аформленыя з выкарыстаннем беларускай мовы. Фірма «Галіна Бланка» (Іспанія) не памылілася, калі ў чарговы раз правяла рэкламную беларускамоўную кампанію.

Прыходзіцца толькі шкадаваць, што нашы таваравытворцы страчваюць пазіцыі на айчынным рынку бо мяркуюць, што «многие потребители не знают белорусского языка и не умеют на нём читать». Хутчэй за ўсё кіраўнікі нашых прадпрыемстваў не ўмеюць лічыць магчымы прыбытак!

**Сяргей Кручкоў,**
**Намеснік старшыні ТБМ**

# У сямі нянек заўжды дзіця ненаетае

***Беларусь займае адно з першых месц у Еўропе па колькасці студэнтаў. Ды працаўладкаваць іх няпроста***

«Вучыся, сын, начальнікам будзеш» - з такім наказам выпраўлялі вяскоўцы сваіх дзяцей у горад. Не ўсім з іх удалося выканаць бацькоўскі запавет, таму цяпер яны гоняць у ВНУ сваіх дзяцей, а хто ўжо і ўнукаў. Не дзіўна, што вышэйшая адукацыя стала масавай. У нашай краіне 340 тысяч студэнтаў. У разліку на 10 тысяч насельніцтва па колькасці студэнтаў Беларусь займае адно з першых месц у Еўропе.

На жаль, колькасць студэнтаў ды і саміх вышэйшых навучальных установаў не перайшла ў якасць. Калі, напрыклад, параўнаць шансы на працаўладкаванне выпускніка педагагічнага універсітэта з дыпломам псіхолага і такога ж спецыяліста з дыпломам Маскоўскага сацыяльнага універсітэта, філіял якога працуе ў Мінску, то перавагу аддадуць уладальніку расійскага дыплома. Нават не па суб'ектыўных прычынах: нам заўсёды здаецца, што чужое – лепшае, а па аб'ектыўных – у суседзяў адукацыя, навука больш сучасныя, таму што Расія ў параўнанні з Беларуссю больш адкрытая краіна. Нікога не здзіўляе, што дзесяткі расійскіх прафесароў чытаюць лекцыі і самі вучацца за мяжой, а калі адзін які беларус там апынецца, то аб гэтым ці ўвогуле маўчаць ад зайздрасці, ці гавораць як аб вялікім дасягненні. Дзеля справядлівасці заўважым, што асобныя беларускія «тэхнары» высока каціруюцца ў замежжы.

Возьмем іншы бок: якасць выкладання ў прыватных беларускіх ВНУ. Калі ў нашай краіне пачалі ўсталёўвацца рынкавыя адносіны, то сваю легальную нішу занялі і выкладчыкі ВНУ. Стварыўшы з дапамогай грошай сяброў і сувязяў прыватныя ВНУ, на працу ў іх запрасілі... выкладчыкаў дзяржаўных ВНУ. Напрыклад, у пачатку 90-х гадоў студэнты аднаго з прыватных інстытутаў лічылі, што атрымліваюць адукацыю ў славутым і недасягальным для простага смяротнага «наргасе», таму што 85% выкладчыкаў былі менавіта адтуль.

Прыватныя ВНУ павінны самі зарабляць, і таму якасць навучання ў асобных навучальных установах не была высокай. Напрыклад, у мінулым годзе Міністэрства адукацыі правяло кантрольны «зрэз» ведаў студэнтаў прыватных ВНУ. У некалькіх з іх студэнты зрабілі па дзве памылкі ў адным слове. Стала зразумела, што там сапраўды куплялі дыпломы. Паколькі цяпер у нашай краіне выдаецца дыплом дзяржаўнага ўзору, незалежна ад формы ўласнасці ВНУ, то былі ўнесены адпаведныя карэктывы ў Закон РБ «Аб адукацыі». Згодна з ім, цяпер усюды аднолькавыя правілы прыёму – каб стаць студэнтам прыватнага ВНУ, акрамя грошай, трэба здаць уступныя экзамены. Лічыцца, што такім чынам абараняецца дыплом дзяржаўнага ўзору ад камерцыйнай дыскрэдытацыі. У пэўнай ступені гэта нават лішняя мера, бо калі сёння ў наймальніка ёсць выбар паміж выпускніком дзяржаўнага ВНУ і прыватнага, ён выбярэ першага. Выключэнне з гэтага сумнага правіла складаюць толькі тыя прыватныя ВНУ, якія яшчэ на трэцім курсе пачынаюць «прадаваць» патэнцыйным наймальнікам сваіх студэнтаў. Яны ж, каб павысіць іх канкурэнтаздольнасць, арганізоўваюць замежныя стажыроўкі і г. д. Але такіх прыватных ВНУ адзінкі. А самыя пажаданыя маладыя спецыялісты з дыпломамі еўрапейскіх і амерыканскіх ВНУ. Толькі не ў кожнага наймальніка хопіць на іх грошай.

Лагічна, што мэтай атрымання вышэйшай адукацыі з'яўляецца жаданне працаваць па атрыманай спецыяльнасці і прыстойна зарабляць. З пачаткам рынкавых адносінаў склалася меркаванне, што больш за ўсіх зарабляюць эканамісты і юрысты. З той пары амаль што кожная прыватная ВНУ набірае студэнтаў на гэтыя спецыяльнасці. Таму не дзіўна, што, напрыклад, дырэктарка мінскага тэхнікума бізнесу і права набірала студэнтаў на спецыяльнасці «правоведение», не маючы адпаведнай ліцэнзіі. Цяпер у адносінах да яе ўзбуджана крымінальная справа.

Пакуль што атрымліваецца так, што ўладальнікі айчыннага дыплома аб вышэйшай эканамічнай ці юрыдычнай спецыяльнасці гандлююць на рынках, займаюцца будоўляй і робяць яшчэ шмат чаго, акрамя працы па спецыяльнасці. Нічога дзіўнага ў гэтым няма, бо, па звестках Міністэрства адукацыі, выпускнікоў ВНУ ў два разы болей, чым працоўных месц для іх.

Чыноўнікі з Міністэрства адукацыі заўважылі гэту тэндэнцыю і тлумачаць яе тым, што амаль кожнаму міністэрству падпарадкоўваецца якая-небудзь вышэйшая навучальная ўстанова. А ў сямі нянек, як вядома, дзіця бязнога.

**Яніна ЛЮТКОВІЧ**

# Смілавіцi каледж

**Студэнцкія погляды на пэўныя праблемы**

Рэдакцыя *Новага Часу* даўно планавала наведаць Смілавіцкі аграрны каледж, наладзіць там сустрэчу з літаратарамі, правесці апытанне вучняў. Падставамі для выбару гэтага адраса паслужыла тое, што навучальная ўстанова знаходзіцца ў мястэчку, дзе няма вялікіх прадпрыемстваў, дзе абмежаваны выбар месца працы. Смілавічы ляжаць між Магілёўскай магістраллю і ракой Волмай, так мовіць, на сумежжы розных сфераў народнай гаспадаркі. Ад Смілавіч да сталіцы 20 кіламетраў, гэта ніяк не глыбінка. Каледж займае тэрыторыю былой сядзібы Манюшак-Ваньковічаў, дзе захаваліся стары парк, некаторыя гістарычныя будынкі, і ў гэтых межах каледж існуе лакальна, абасоблена ад астатняй традыцыйна драўлянай смілавіцкай забудовы. На вучобу сюды едзе моладзь з розных раёнаў краіны навучацца па спецыяльнасцям бухгалтэр, заатэхнік, пчаляр.

Была цікава даведацца, як моладзь трапляе сюды, – па падказцы родных, праз рэкламу, праз самастойны пошук, дзе маладыя людзі плануюць жыць і працаваць пасля вучобы, колькі хочуць зарабляць у самастойным жыцці, як праводзяць вольны час, чым задаволены, на што наракаюць?¶

На сустрэчы прысутнічалі студэнты розных курсаў, усе яны ананімна адказвалі на пытанні адмысловай анкеты. Пры абагульненні адказаў высветлілася, што 80 адсоткаў вучняў далі адказы ў беларускай мове. Бальшыня паступіла ў каледж з падказцы бацькоў ці сваякоў, якія самі скончылі Смілавіцкі сельгастэхнікум, ці прыяцеляў, якія тут вучацца, некаторых прывёў у вучэльню вопыт працы ў заапарках і конных гаспадарках. Выпадковасць выбару адзначылі толькі тры студэнта (не паступілі ў Мінску, прыехалі сюды).

Да паступлення лічаныя маюць вопыт беспрацоўя (шукалі працу па душы), сябры па школе таксама бальшынёй вучацца ці працуюць.

Найбольшае здзіўленне выклікаюць адказы на пытанне «Дзе б хацелі жыць пасля вучобы?» Толькі 10 адсоткаў анкетаваных адказалі, што плануюць жыць на вёсцы, з бацькамі, працаваць у добрых гаспадарках, дзе своечасова плацяць заробак. Астатнія 90 адсоткаў выказалі жаданне жыць на радзіме, але ў горадзе, пераважна ў буйным. Пэўная частка не супраць, калі складуцца зручныя абставіны, працаваць за мяжой

Паколькі нядаўнія выпускнікі школы маюць малы вопыт заробку грошай, то іхнія адказы на пытанне аб пажаданым памеры зарплаты нясуць сляды сямейных размоваў, ці нейкіх разлікаў у маладзёжнай кампаніі, аднак названыя сумы патрэбнага заробку істотна розняцца ад тых, што рэальна існуюць у краіне. Самыя сціплыя называлі суму ў 400–500 тысяч рублёў, астатнія пазначалі 300–500 даляраў і вышэй.

Галоўнае і ўсеагульнае жаданне, як вынікае з адказаў, мець доступ к інтэрнету – «патрэбна больш інтэрнет-клубаў». Паказальна, што першакурснікам, апроч інтэрнету, усяго «хапае», а старэйшым «не хапае» добрай дыскатэкі, не хапае ў мястэчку месцаў працы, дзе можна падзарабіць у дадатак да стыпендыі.

Яшчэ адно ўсеагульнае жаданне – мець у інтэрнатах гарачую ваду ці мець у Смілавічах «вялікую» баню, У рэшце рэшт як побытавыя нязручнасці адбіваюцца на жыццёвых марах і якія планы будучыні выстройваюцца, калі мараць пра гарачы душ, – пытанне для вывучэння сацыёлагамі.

Вучыцца прыходзяць добравыхаваныя дзеці. Паказальна, што на пытанне аб пажаданых зменах у жыцці, шмат хто адказаў, што хацелася б, каб бацькі больш атрымлівалі, каб бацькам было лягчэй жыць.

# «Крутыя» малалеткі

***Амаль кожнае 11-е злачынства ў Мінску здзяйсняецца непаўналетнімі***

За восем месяцаў бягучага года ў Мінску зарэгістравана 689 злачынстваў, здзейсненых асобамі, якім яшчэ не споўнілася 18 год.

Таму зусім не дзіўна, што ў структуры крымінальнага вышуку ГУУС Мінгарвыканкама адноўлены аддзел па выкрыццю злачынстваў, здзейсненых падлеткамі, а ў кожным раённым упраўленні міліцыі створаны адпаведныя групы. Яны выяўляюць непаўналетніх, якія здзейснілі злачынствы ці толькі маюць намер яго здзейсніць, і дарослых, якія ўцягваюць падлеткаў у багну злачыннасці.

У супрацоўнікаў міліцыі асаблівы непакой выклікае павелічэнне цяжкіх і асабліва цяжкіх злачынстваў, накіраваных супраць асобы, жыцця і здароўя грамадзян, здзейсненых падлеткамі. Згодна са статыстычнымі дадзенымі бягучага года, падлеткі маюць дачыненне да 4 забойстваў і замахаў на забойства, 2 згвалтаванняў, 132 разбойных нападаў, 34 грабяжоў, 45 хуліганскіх учынкаў, 332 крадзяжоў, 32 махлярстваў.

Напрыклад, у траўні на вуліцы Каліноўскага шасцёра падлеткаў, пагражаючы фізічна, адкрыта адабралі залатыя завушніцы ў 14-гадовай дзяўчыны. А на вуліцы Бірузова 15-гадовы хлопец патрабаваў 30 тысяч рублёў у свайго аднагодка.

Вядома, што ў адпаведнасці з рашэннем Мінгарвыканкама непаўналетнія не павінны знаходзіцца ў грамадскіх месцах пасля 23 гадзін без суправаджэння дарослых. Аднак, згодна з міліцэйскімі звесткамі, на вуліцы Прытыцкага а палове чацвёртай раніцы вучань 9 класа здзейсніў разбойны напад на 14-гадовую дзяўчыну і забраў у яе грошы. Чаму абодва бескантрольна апынуліся ў такі час па-за межамі кватэраў, застаецца гадаць.

Як распавёў старшы оперупаўнаважаны Упраўлення крымінальнага вышуку Мінгарвыкама Уладзімір Гайчук, адным з самых распаўсюджаных падлеткавых злачынстваў з'яўляецца крадзеж з аўтамабіляў з мэтай збыту. Бяруць усё, што ляжыць у салоне, а таксама запчасткі. Асабліва прыкра, што на ўсе гэтыя рэчы знаходзяцца дарослыя пакупнікі. Не так даўно вышукнікі затрымалі юнага злодзея. На яго рахунку – больш за 15 крадзяжоў з аўтамабіляў. Падлетак пайшоў па шляху старэйшага брата, які адбывае пакаранне за кватэрныя кражы.

З пачатку года прыцягнута да крымінальнай адказнасці больш за 50 дарослых грамадзян, якія ўзялі на сябе функцыю настаўнікаў у крымінальным навучанні. Напрыклад, дарослы грамадзянін узяўся навучыць двух падлеткаў «майстэрству» разбойных нападаў. На праспекце Скарыны яны заўважылі маладога чалавека з барсеткай у руках. Усім вядома, што ў гэтых мужчынскіх сумачках знаходзяцца грошы, дакументы ды мабільны тэлефон. Вось гэта крымінальная троіца адабрала барсетку і наручны гадзіннік.

Другі «настаўнік» вучыў «чысціць» кватэры. Прычым сам вырашыў нічога не рабіць, а толькі кіраваць падлеткамі. Але за такое «кіраўніцтва» Крымінальны кодэкс прадугледжвае яшчэ большае пакаранне, чым за непасрэднае выкананне, і ў дадатак дзейнічае артыкул 172 – уцягненне непаўналетніх у здзяйсненне злачынства. Толькі па апошнім артыкуле можна атрымаць да пяці гадоў зняволення. Цяпер дарослы хітрун будзе доўга «адпачываць».

Аднак найчасцей кватэрныя кражы непоўналетнія здзяйсняюць шляхам свабоднага доступу ў памяшканне. Нават ствараюць устойлівыя злачынныя групы. У адной з школ Фрунзенскага раёна Мінска 15 вучняў з аднаго класа стварылі такую групу, размеркавалі ў ёй абавязкі. Нехта займаўся выкраданнем ключоў ад кватэр аднакласнікаў і знаёмых, нехта амаль у час урокаў бег у майстэрню па тэрміноваму вырабу ключоў, каб неўзабаве вярнуць ключ на месца. Потым даведваліся, калі нікога не будзе ў абранай кватэры, адчынялі яе дублікатам ключа і бралі ўсё, што падабалася. Бывае, што нават пасля выкрыцця малалетніх кватэрных злодзеяў, іх немагчыма прыцягнуць да крымінальнай адказнасці, таму што яны яшчэ не дасягнулі 14 гадоў – узросту, калі за асобныя віды злачынстваў закон дазваляе прыцягваць падлеткаў да крымінальнай адказнасці.

Заведама лжывае паведамленне аб небяспецы – таксама адно з папулярных злачынстваў у асяроддзі падлеткаў. Закон адносіць гэты від злачынства да катэгорыі цяжкіх, бо неабходна прымаць тэрміновыя меры па эвакуацыі грамадзян з «замініраваных» аб'ектаў. Пры гэтым марнуюцца значныя матэрыяльныя і людскія рэсурсы. Акрамя крымінальнай адказнасці бацькі «мінёра» па рашэнні суда павінны выплаціць суму матэрыяльнай шкоды. Звычайна яна складае некалькі мільёнаў рублёў. Згодна са статыстыкай, узрост «мінёраў» – 14-16 гадоў. З пачатку бягучага года такіх паведамленняў было 74, у 45 выпадках «мініравалі» школы. На 26 злаўмыснікаў перададзены справы ў суд.

Прынята ў падлеткавай (ды і дарослай) злачыннасці вінаваціць сацыяльна-эканамічнае становішча ў краіне. Але, гаворачы пра падлеткаў, найперш трэба звярнуць увагу на сям'ю. Сёння шмат бацькоў у лепшым выпадку лічаць сваім абавязкам толькі накарміць і апрануць дзіця. На жаль, для шчырых чалавечых адносін з дзецьмі ў адных не хапае жадання, у іншых – няма часу. Такія «безбацьковічы» пры жывых бацьках збіваюцца ў небяспечныя кампаніі. Нярэдка ў іх з'яўляюцца важакі з крымінальным досведам.

На крымінальны шлях дзіця можа адправіць і маці. На аператыўным уліку ў сталічным крымінальным вышуку стаіць 15 дзяўчынак, якія займаюцца прастытуцыяй. І маці пра гэта ведаюць. У адносінах да дзвюх, з дазволу сказаць, мацярок узбуджаны крымінальныя справы за тое, што яны самі выправілі на панель сваіх малалетніх дачок.

**Яніна ЛІПЕНЬСКАЯ**

# Вучыся, вучыся...

***Самую вялікую групу сярод беспрацоўных складае моладзь – 45,5% ад агульнай колькасці людзей, якія шукаюць працу***



Згодна са статыстычнымі дадзенымі Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, у бягучым годзе беспрацоўных ва ўзросце да 30 год зарэгістравана на 6,3% больш, чым у мінулым.

На думку спецыялістаў, прырост колькасці маладых беспрацоўных абумоўлены колькасцю выпускнікоў школы, якія не здолелі паступіць у вышэйшыя і прафесійныя навучальныя ўстановы, а таксама колькасцю выпускнікоў ПТВ, якія па розных прычынах не прыступілі да працы. Значны ўплыў на рынак працы аказваюць і дэмаграфічныя працэсы. Пакаленне, якое з'явілася на свет у гады «бума нараджальнасці», дасягнула працаздольнага ўзросту.

З кожным годам павялічваецца колькасць беспрацоўных выпускнікоў прафтэхвучылішчаў (у 2003 – на 15%), тэхнікумаў (на 48,5%) і вышэйшых навучальных устаноў (на 8,6%). Яны не маюць досведу практычнай працы, таму не цікавяць працадаўцаў.

У Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны працаўладкаванне моладзі лічаць прыярытэтным накірункам. Асноўнымі формамі работы з маладымі беспрацоўнымі, якія звярнуліся ў дзяржаўную службу занятасці, з'яўляюцца: прафесійная дапамога ў выбары прафесіі і атрыманне яе за кошт сродкаў дзяржаўнага фонду садзейнічання занятасці, арганізацыя часовай занятасці вучнёўскай і студэнцкай моладзі пасля заняткаў і ў перыяд летніх вакацыяў.

З пачатку года пры дапамозе дзяржаўнай службы занятасці працаўладкавана больш за 46 тысяч чалавек ва ўзросце 16–29 гадоў. З дапамогай спецыялістаў амаль атрымалі працу 30% выпускнікоў тэхнікумаў, больш за 25% выпускнікоў ПТВ і прыкладна 23% выпускнікоў ВНУ.

Важным накірункам працы службы занятасці з'яўляецца прафесійнае навучанне. Створаны спецыяльныя цэнтры прафарыентацыі, у якіх моладзь можа падрабязна даведацца аб той ці іншай прафесіі, прайсці тэсціраванне з мэтай выявіць прафесійныя здольнасці і схільнасці. Пасля тэсціравання прапануецца пайсці на курсы, каб атрымаць абраную прафесію. Толькі ў першым паўгоддзі 12.300 маладых беспрацоўных прайшлі прафесійнае навучанне, сярод іх палова – упершыню атрымалі прафесію. У асноўным гэта рабочыя прафесіі, менавіта яны зараз найбольш запатрабаваныя на сталічным рынку працы.

Асобнай увагі заслугоўвае дзейнасць Міністэрства працы і сацыяльнай абароны ў стварэнні працоўных месц для маладых інвалідаў, не маючых медычных проціпаказанняў да працы. Сумесна с партнерамі з Галландыі пры фінансавай падтрымцы Праграмы сацыяльных пераўтварэнняў у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе ў нашай краіне створаны тры цэнтры сацыяльных работ для маладых беспрацоўных інвалідаў. Яны працуюць у Мінску, Магілёве і Гродна. У гэтых цэнтрах 184 маладых інваліда атрымліваюць прафесіі швачкі, цырульніка, карыстальніка камп'ютэра, нянькі, прафесійных прыбіральшчыкаў офісаў і кватэр і іншых. З цягам часу, атрымаўшы кваліфікацыю і досвед работы ў калектыве, чалавек зможа ўладкавацца на працу і амаль што забыць аб сваёй інваліднасці.

Дзяржаўная служба занятасці аказвае матэрыяльную падтрымку беспрацоўным, якія заняты актыўным пошукам працы – выплочвае дапамогу па беспрацоўю.

Таксама служба занятасці садзейнічае прадпрымальніцкай дзейнасці маладых беспрацоўных. Больш за 100 з іх атрымалі з пачатку года з сродкаў дзяржаўнага Фонда садзейнічання занятасці ссуды і субсідыі на адкрыцце сваёй справы. Перавага аддаецца тым, хто выпрашыў стварыць вытворчасць ці аказваць паслугі, а не гандляваць.

Дзяржаўнай праграмай занятасці прадугледжана ў бягучым годзе прыняць на працу за кошт брані амаль 6 тысяч чалавек ва ўзросце да 18 гадоў. Гэтыя маладыя людзі з'яўляюцца катэгорыяй беспрацоўных, якая не можа на роўных умовах канкураваць з дарослымі беспрацоўнымі, таму для іх і браніруюцца рабочыя месцы. Практыка паказвае: нярэдка маладыя людзі неадэкватна ацэньваюць свае магчымасці і жаданні. Юнацкі максімалізм не дазваляе зразумець, што кар'ерны рост у любой справе пачынаецца з невялікіх заробкаў. Узровень заробкаў залежыць ад прафесіяналізму, адукацыі і досведу, а не ад жадання зарабляць, чым болей.

**Яніна ЛІПЕНЬСКАЯ**

# Ліга плюшча

Ліга плюшча – гэта восем старадаўніх, прэстыжных універсітэтаў ЗША – Brown, Columbia, Cornell, Dartmouth, Harvard, University of Pennsylvania, Princeton і Yale. Ліга была створана ў 1940 годзе як спартыўная арганізацыя для правядзення міжуніверсітэцкіх спаборніцтваў па амерыканскім футболе. Плюшч – сімвал Лігі, бо пышна пакрывае старыя цагляныя сцены універсітэтаў, заснаваных ў XVII–XIX стагоддзях. Дыплом аднаго з універсітэтаў Лігі – своесаблівы знак якасці. Снобская вартасць дыплома прыкладна роўная яго прафесійнай вартасці: ён сведчыць не столькі аб выдатных якасцях выпускніка, колькі аб яго прыналежнасці да пэўнага кола.

Усе універсітэты Лігі ўваходзяць у верхнія 15 радкоў нацыянальнага рэйтынгу вну. Апроч іх там абавязкова знаходзяцца Стэнфардскі універсітэт і Масачусетскі Тэхналагічны інстытут, якія могуць параўнацца з універсітэтамі Лігі і коштам, і якасцю навучання, а таксама некалькі дзяржаўных вну.

Усе яны ў чымсьці вельмі падобныя адзін да аднаго. Па-першае, у іх даволі мала студэнтаў першых чатырох гадоў навучання (undergraduate studies). У самых вялікіх універсітэтах Лігі, Карнеле і Пенсільваніі, іх па 10.000, у іншых – 4–5.000, тады як буйныя дзяржаўныя вну навучаюць па бакалаўрскіх праграмах і па 30.000 студэнтаў. Значна болей праграмаў вну Лігі прапануюць для магістрантаў і дактарантаў – прыкладам, у Гарвардзе на іх вучыцца 10.000 чалавек.

ВНУ Лігі багатыя, як феадалы. Яны маюць вялізныя надзелы зямлі, мноства будынкаў, выдатную апаратуру, іх высокапастаўленыя выпускнікі аказваюць матэрыяльную і маральную падтрымку, урад і бізнес выдзяляюць гранты на навуковую работу. ВНУ маюць уласныя абсерваторыі, даследніцкія цэнтры, свае музеі. Кожны з універсітэтаў Лігі – гэта асобны горад у горадзе: у ім можна жыць, не выходзячы ў навакольны, не студэнцкі, свет.

Шмат грошай прыносяць і самі студэнты: кошт навучання тут не ніжэй 20.000 даляраў на год, а можа быць і вышэй за 30.000 даляраў. Аднак у бедных (асабліва калі яны з нацменшасцяў) усё ж ёсць шанец патрапіць у шэрагі эліты: для іх ёсць стыпендыі, якія могуць пакрыць значную частку выдаткаў на навучанне. Можна знайсці працу, хоць сумяшчаць яе з вучобай у прэстыжным універсітэце вельмі цяжка; старшакурснікаў бяруць у даследніцкія інстытуты і лабараторыі, якія ўваходзяць у склад універсітэта, – адначасна можна працаваць над сваёй тэмай і зарабляць грошы.

Неабходны для паступлення тэст SAT I абітурыенты здаюць у сярэднім на 1.400 балаў (максімум – 1.600, у сярэднім па краіне – каля 1.000) Адзначана, што дзеці VIP-бацькоў вучацца горш за астатніх – і не таму, што яны дурнейшыя, проста іх менш клапоціць пошук працы і магчымая канкурэнцыя. Усёй Амерыцы вядомы выпадак, калі Эдварда Кенедзі выключылі з Гарварда за жульніцтва на экзамене па іспанскай мове.

Мадэль, па якой будуецца навучанне ва універсітэтах Лігі, грунтуецца на агульнагуманітарнай канцэпцыі liberal arts, ці вольных мастацтваў. Першыя чатыры гады не разглядаюцца тут як прафесійная падрыхтоўка. У гэты час студэнты выбіраюць для сябе курсы з шырокага спісу агульных дысцыплінаў, якія павінны закласці аснову для далейшай навуковай працы, навучыць іх самастойна працаваць, развіць розум і выхаваць з іх сумленных грамадзянаў. Універсітэты Лігі славяцца сваімі юрыдычнымі, медычнымі і бізнес-школамі.

Іншая мадэль выкладання, вядомая менавіта як амерыканская сістэма, арыентавана больш прафесійна. Там патрабаванні для атрымання ступені больш гнуткія, магчымы камбінацыі з двайной спецыялізацыяй. Ліга плюшча, наадварот, дае традыцыйную акадэмічную адукацыю, закладаючы вялікі тэарэтычны фундамент – а будаваць на ім нешта выхаванцы Лігі ўжо могуць на свой выбар.

Апроч вучобы, студэнтам ёсць чым заняцца. У кожным універсітэце Лігі ёсць студэнцкі тэатр, газета, літаратурны часопіс, радыё і тэлебачанне, мноства спартыўных секцый і клубаў.

## Мы абагналі Расію?

***Беларускія выкладчыкі аддаюць перавагу расійскім «метадычкам»***

Ні для каго не сакрэт, што цяпер школьнікі вывучаюць тое, што іх бацькі раней у ВНУ. Дзеці з пачатковай школы атрымліваюць такое хатняе заданне, што без дапамогі бацькоў справіцца з ім немагчыма. Гэта нават пры тым, што з 1 верасня 2002 года скарацілася вучнёўская нагрузка на 10%, а на 20% паменшыліся вучэбныя праграмы. Сучасны навучальны план складаецца з дзвюх частак: дзяржаўнай і школьнай. Самая вялікая нагрузка ў адпаведнасці з дзяржаўным планам у вучняў 9 класа – 30 гадзін у тыдзень, вучні сярэдніх класаў вучацца не менш за 22–28 гадзін. Рэфармаванне школы расцягнулася на дзесяцігоддзі, але пакуль што ні адна школьная методыка не прайшла медыка-гігіенічную экспертызу. Таму зусім не дзіўна, што прыходзяць дзеці ў школу адносна здаровымі, а к моманту заканчэння маюць букет хвароб, які стане яшчэ больш пышным у студэнцкія гады.

Нашы чыноўнікі ад адукацыі любяць казаць, што «мы абагналі Расію». Калі падысці з фармальнага боку, то яны маюць рацыю. Насамрэч, Беларусь падпісала ўсе магчымыя міжнародныя пагадненні, у нас уведзена 10-бальная сістэма ацэнкі ведаў, 12-гадовае навучанне ў школе, ВНУ перайшлі на міжнародныя стандарты. Але вось у Беларусі не хапае сваіх метадычных дапаможнікаў і іх купляюць у Расіі. Нават калі ёсць свае, то многія выкладчыкі аддаюць перавагу расійскім таму, што яны лепшыя па зместу.

Агульнае як у расійскай, так і ў беларускай школе толькі тое, што аднолькава «трасуць» грошы з бацькоў. Можа, нават, у Расіі больш, чым у нас, бо калі ў расійскіх газетах даводзілася чытаць інтэрв'ю ці «прамыя лініі» з чыноўнікамі суседняй краіны, то праз адно былі пытанні пра вялікія пaборы ў школах.

**Яніна ЛЮТКОВІЧ**

# Маскоўскія прыватныя школы

У расійскай сталіцы дзейнічаюць каля 250 прыватных школ. Бацькі часта аддаюць сваё дзіця ў прыватную школу найперш з мэтай забяспечыць яму камфортныя ўмовы навучання і бяспеку. Класы ў такіх школах абсталяваныя зручнай мэбляй і найноўшай тэхнікай. Што датычыць якасці навучання, то ў класах з 6–10 чалавек існуюць усе ўмовы для індывідуальнага падыходу, а сродкі бацькоў дазваляюць магчымасць набываць самыя лепшыя дапаможнікі.

Але ў якасці навучання канкурэнцыю дзяржаўным школам прыватныя ўстановы не складаюць. Выключэннем з'яўляюцца толькі школы, якія маюць цесныя сувязі з вну ці створаныя пры прэстыжных інстытутах, напрыклад, «Еўрапейская гімназія» пры Вышэйшай школе эканомікі. Астатнія нават прайграюць дзяржаўным у першую чаргу з-за высокага кошту сваіх паслугаў – кошт навучання ў прыватнай школе вагаецца ад 300 даляраў да 1.200 за месяц. Дзяржаўныя школы цяпер уводзяць у праграмы новыя дысцыпліны і дадатковыя заняткі, якія раней былі толькі ў прыватных школах. Напрыклад замежная мова і інфарматыка выкладаюцца з першага класа, уводзяцца заняткі харэаграфіяй і тэнісам. Кошт такіх дадатковых заняткаў дасягае 1.000–1.500 рублёў на месяц (30–50 даляраў). Калі на думку бацькоў дзіцяці патрэбна ахова і дастаўка ў школу і дадому, то яны дамаўляюцца з агенцтвам, што больш танна.

Пераход дзяржаўных школ на гаспадарчы разлік зрабіў іх канкурэнтамі «прыватнікаў» і паменшыў прэстыжнасць прыватнага навучання.

**Вера САВІНІЧ**

Мемуары

# Кладачкі паміж пазаўчарашнім і сённяшнім

# Кладачка нулявая

Адам Мальдзіс



***Колькі ўступных слоў пра тое, адкуль усё ўзялося-пачалося***

**У №№ 8 і 9 Новага Часу за гэты год чытачы пазнаёміліся з асобнымі раздзеламі з мемуараў шаноўнага літаратуразнаўцы і пісьменніка Адама Мальдзіса. З гэтага нумара газета пачынае друкаваць пачатковыя раздзелы ўспамінаў, у якіх аўтар узгадвае, як выходзіў на сцяжыну навукі, знаёмства з Караткевічам ды іншымі творчымі асобамі, свае духоўныя пошукі і асэнсаванні.**

Самы блізкі шлях, які вёў ад маёй роднай вёсачкі Расолы ў вялікі і неабжыты свет: на станцыю Гудагай, а там і ў школу, і ў краму, і на пошту, дзе чакалі мяне газеты, і ў раённы Астравец, і на цягнік у Вільню ці абласное тады Маладзечна, пралягаў не праз Палушанскі мост (Палушы – значыць «па Лошы», уздоўж Лошы), а праз кладку Вішнеўскіх. Дакладней, пасля вайны гэта была не шырокая сённяшняя кладка, а вузкае ледзь абчасанае бервяно, якое злучала два берагі празрыстай тады Лошы, што імкліва бегла ў Ашмянку, каб з ёй злучыцца з Віліяй. Дарога пры такім выбары шляху скарачалася на якой паўгадзіны. Але выбар таіў і небяспеку. У дождж ці замаразь даводзілася перастаўляць ногі не ўздоўж, а ўпоперак. Колькі разоў прыйшлося плюхнуцца разам са зламаным поручнем у халодную крынічную ваду. Тады быў адзін паратунак: адаграваццa ў якой з трох хатаў Вішнеўскіх, збяднелай засцянковай шляхты. Пра тое, што, у адрозненне ад нас, «расольскіх мужыкоў», яны належалі (сам бачыў дакументы, якія потым зніклі) да патомнага дваранства, я даведаўся ўжо ў студэнцкія гады, на сваім вяселлі - а было яно амаль пяцьдзесят год назад – з Марыяй (а паводле метрычнага запісу з Гервяцкага касцёла на літоўскай мове – Марыёлай) Вішнеўскай, якая жыла якраз каля сцежкі ў адной з трох хатаў, самай маленькай, а таму самай цёплай. Так прыемна было там спыніцца, папрасіць вадзіцы са студні, а ўслед за кубкам вады атрымаць часам і яблык – папяроўку ці антонаўку.

З таго студэнцкага часу я ўжо прынцыпова хадзіў у Гудагай толькі праз кладку. Асабліва калі даведаўся, што ў 1905 годзе на Палушанскім масце, а побач з ім шумеў і млын, адбыліся, як бы тут далікатней выказацца, не зусім справядлівыя ў дачыненні да млынара падзеі. Кладка ж нібы злучала не толькі два берагі Лошы, але і дзве часткі тваіго жыцця: асабістую, сямейную і грамадскую, кніжную, што ўсё выразней з тутэйшай, неакрэсленай, беларуска-польска-літоўска-рускай ставілася свядома беларускай.

Як і пры выбары паміж кладкай і мостам, людзям культурнага памежжа часам цяжка рабіць свой ідэнтыфікацыйны выбар. Нярэдка гэта спараджае комплексы непаўнацэннасці, нерашучасці на ўсё жыццё. Але ў маім выпадку гэты выбар паступова рабіўся. Спачатку стыхійна, інтуітыўна, а потым усё больш свядома. Падкрэсліваю гэта таму, што нядаўна на сайце «Дзед Талаш» я са здзіўленнем прачытаў, нібы, займаючыся ў Астравецкай школе, я праводзіў нейкую паланізатарскую работу. Што ў касцёл хадзіў – тое праўда. Але пакуль не прыгразілі непрыемнасцямі. Што кнігі польскія чытаў – таксама праўда. Што крыху дыстанцыраваліся ў класе ад «усходнікаў» – таксама праўда. Але супрацьстаяння «ўсходнікам», нават калі іх бацькі паводзілі сябе несправядліва, – не было. Палякам ці літоўцам (нягледзячы на літоўскае прозвішча: Малда – гэта ад модлаў, малітвы, набожнасці нейкага продка) ніколі сябе не лічыў, у чым вялікая заслуга нашага настаўніка беларускай літаратуры Цярэнція Крыўко, у якога мы збіраліся па вечарах дзеля гаворкі, а пазней ужо дзеля скваркі і чаркі. Раўняючыся на яго, я ўсё больш пачуваў сябе беларусам.

Зрэшты, першы выбар за мяне зрабіў, даючы тым самым урок, мой бацька Восіп, сын Людвіка. Селянін, можа, нават без царкоўна-прыходскай адукацыі, але пісьменны, цікаўны да падзей у свеце, «палітыкавання», як ён сам казаў, паважаны ў вёсцы. Яго выбіралі то солтысам, то дэпутатам. Дык вось, калі ў 1945 годзе нашы суседзі пачалі перасяляцца ў Польшчу, калі нават шматдзетная Антосіха, у чыёй хаце польская мова гучала куды радзей, чым у нашай, падала заяву прадстаўніку польскага «жонду», калі ў мяне раптам узнікла пагроза разлукі з яе сынам, а маім верным сябрам Эўгеніюшам Мальдзісам, які потым стаў у Польшчы вядомым мастаком-графікам, не вытрымала і мая маці, Марыя з Вянгроўскіх, дачка Мацея.

– Давай і мы запішамся, – насядала яна на бацьку. – Там жа, кажуць, на нямецкіх землях кінутыя каровы мыкаюць у хлявах, нядоеныя. І ад калхозу таго выратуемся. Ад раскулачвання. Бо наша хата, бляхай крытая, многім вочы коле.

– Што будзе, тое і будзе, – адрэзаў бацька. – Тут наша зямля, і нікуды я адсюль не паеду. А дзеля чатырох нашых гектараў - мы не кулакі. Нікога не наймаем, сваёй сям'ёй абыходзімся. І чаму хату бляхай мусіў пакрыць – таксама патлумачу. Паміж рускіх – многа талковых людзей. Успомні Пецярбург... Так што адрозняць гаспадара ад пана.

Пра Пецярбург і бляху я павінен зрабіць невялікае адступленне.

Бацьку пасля дзяльбы паміж братамі і сплаты пасагу віленскай сястры заставаўся толькі які гектар зямлі, ды скрыпка, на якой ён іграў на вяселлях ці настройваўся на любімую песню «Трансвааль, Трансвааль, страна моя, ты вся горишь в огне...» А ў задворніцкіх дзядоў па матчынай лініі Вянгроўскіх была больш моцная гаспадарка. І з расольскімі «галадранцамі» яны не хацелі радніцца. Тады бацькі ўцяклі ў Пецярбург, дзе і ўзялі шлюб, а потым, да прызыву бацькі на службу ў Туркестан, нейкі час там працавалі (дзе - на жаль, не спытаў). Потым бацька ваяваў на фронце, трапіў у палон. Паводзіліся яму там, у параўнанні з апошняй вайной, ненайгорш, бо працаваў у кляштары над Дунаем (потым гэты кляштар прывядзе да шматлікіх ускладненняў у маім жыцці). І ўсё ж уцёк з Баварыі, ішоў пешкі праз Чэхію і Польшчу. Прыйшоў у старую хату, а там цесна. Мусіў пачаць новую. А тут брат Ян запратэставаў. У вайну ён нагледзеўся, як працуе палявы лекар, абвясціў сябе «фейчарам», узвёў блізенька вялікую даміну – маўляў, пажарная бяспека не дазваляе так блізка другім будавацца. Мусіў бацька пазычаць грошы, крыць хату няшчаснай бляхай, якая, ацынкаваная, блішчэла на ўсе Расолы. І ўвогуле пачаў гаспадарыць крыху на нямецкі лад, паўтараючы: «Орднунг іст орднунг». Тут і цесць яго запаважаў, шнур задворніцкай зямлі ды гектар лесу даў нібы ў пасаг.

Потым, у часы заходнебеларускай калектывізацыі, тая бляха стала прычынай многіх трывог. Хто ні прыедзе з раёна – ідзе кулака бамбіць. Неяк знаёмыя службоўцы паведамілі бацьку з Астраўца (чамусьці праз мяне), што наша сям'я ўключана ў спіс на вываз у Сібір. Некалькі начэй мы начавалі ў зялёным жыце: можа, не знойдуць... Потым крыху супакоілася, калі бацька першым у вёсцы пад прымусам напісаў заяву ў калгас. Маці залемантавала, што шкада потам заробленага дабра. Але бацька цвёрда сказаў, што свайго слова ён мяняць не будзе. Бо супраць «вусатага» не папрэш. Ды і калгасы будуць нядоўга, таму што як можна гаспадарыць не на сваёй зямлі.

Такія выбары жыццё прымушала рабіць майго бацьку. Але наступныя рашэнні я мусіў ужо прымаць сам. Няхай спачатку вонкава дробязныя. Памятаю, неяк будучы ў Маладзечне на абласным фестывалі мастацкай самадзейнасці (о жах: дзеля масавасці, не маючы голасу, я там... спяваў у хоры калгаса імя Сталіна), мы вельмі ўпадабалі чыйсьці спектакль па п'есе Віталія Вольскага «Несцерка». Захацелі паставіць у Астраўцы. Але тэксту не было. Таму ўгаварылі мяне напісаць ліст самому аўтару. Праз некаторы час прыходзіць бандэроль, але чамусьці з перакладам на рускую мову. А ў мяне стаялі ў вушах словы, пачутыя ў Маладзечне. І таму рашуча сказаў, што іграць «Несцерку» не ў арыгінале будзе злачынствам.

– А где ты возьмешь свой белорусский текст?! – асадзіла мяне настаўніца рускай мовы, па сумяшчальніцтву кіраўнік драмгуртка.

– Напішу яшчэ раз Вольскаму, – адказаў. Але нешта муляла мне, каб зноў звярнуцца да пісьменніка. І таму за які тыдзень паціху пераклаў п'есу сам. А тэкст мне аддрукавалі на машынцы (каб было верагодней) у рэдакцыі астравецкай раённай двухпалоскі «Сталінская праўда». Давялося затраціць на гэта першы ганарар, які так хацелася выдаць на дэтэктарны радыёпрыёмнік.

Ды што там пераклад «Несцеркі». Нязабаве жыццё паставіла мяне перад больш складаным выбарам. Калі дайшло да дзесятага класа, маці ўсё часцей пачала настойваць, каб я ехаў паступаць «на сваю журналістыку» ў Вільню: блізка, радні многа, панскасці болей. А што той Мінск, каму патрэбна тая мужыцкая беларуская мова?! У Вільні можна па-руску або па-польску. Або літоўскую падвучыць. Вільня ж свая, а Мінск савецкі. Што ты, бацька, маўчыш?! Тваё ж дзіця!

Але бацька ў нашы спрэчкі не ўмешваўся: няхай рашае сам. Піша вершыкі і «заметкі» па-беларуску, дык няхай піша.

І я паехаў у Мінск у самы перадапошні дзень, бо дыплом мне затрымалі (чаму - гэта асобная гаворка). Рашыў усе экзамены (а было іх тады ажно сем) здаваць па-беларуску. І здаў. Нават Абэцэдарскі, чамусьці недаверліва пагартаўшы колькі раз заліковую кніжку, усё ж паставіў пяцёрку.

Аднак пара вярнуцца да кладак і кладачак. Каля Расолаў, на Лошы іх было некалькі. Яшчэ адна вяла ў Сяржанты, да пані Эйніковай, унучкі аўтара «Польскага баечніка» Антонія Глінскага. Да яе мы хадзілі з Эўгеніюшам пазычаць прыгодніцкія кнігі. Яшчэ адна, Юцкевічава кладка, скарачала шлях да хаты настаўніка (прозвішча яго забылася) пад самой чыгункай. Кнігі і размовы там былі сур'ёзней. Нават «Марсельезу» напявалі. Ад тых кладак, тых сцежак і калінак пачыналася многае з таго, што рашуча і нечакана паўплывала на пазнейшае жыццё-быццё. Бо, як неадпойчы я пераконваўся, нішто ў ім не знікае бясследна. Нешта пачыналася там, у Расолах і Палушах, Гудагаях і Астраўцы, а потым зусім нечакана адгукалася праз якіх сорак ці пяцьдзесят гадоў. Там выцягваліся, нібы з кудзелі пры калаўроце, ніткі і ніточкі, на якіх вузельчыкі – драматычныя ці камічныя – завязвала ўжо не вялікасць Гісторыя. Завязвала часам далёка ад Расолаў і далёка ад Беларусі.

І адна з першых такіх кладачак-ніточак – як ад мяне аддалялася Вільня. Вядома, мне карціла пачаць успаміны з больш эфектнай і сенсацыйнай ніточкі паміж мінулым і наступным. Скажам, як я выходзіў з Еўропы і зноў у яе вяртаўся. Або: як я паўтара года прахадзіў у «агентах ЦРУ-шнай шпікалоўкі». Або: як на сваёй Астравеччыне я два месяцы паездзіў кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета і што з гэтага выйшла. Або: як мы з Вольгай Іпатавай ехалі з Мінска ў Зэльву на пахаванне Ларысы Геніюш ажно праз Гродна. Або: як шчасліва лёс звёў мяне з Уладзімірам Караткевічам. Або: як шукаўся і чаму не знайшоўся крыж святой Ефрасінні Полацкай. Ды ці мала што згадвацца сёння і больш яскравага, і больш цікавага. Але ж трэба расказваць усё па парадку і спачатку.

Таму ў пачатку, у наступным аповедзе, няхай будзе Вільня!

Працяг будзе



# Сляды былой удачы


Убельская сядзіба. Малюнак Напалеона Орды


Былы флігель смілавіцкай сядзібы


Станіслаў Манюшка

За дваццаць вёрстаў ад Мінска па магілёўскай шашы ляжыць мястэчка Смілавічы, якое шырокая публіка звязвае з імем Станіслава Манюшкі – кампазітара, дырыжора, стваральніка польскай нацыянальнай оперы, які меў дачыненне і да станаўлення беларускай музычнай культуры. У прыватнасці, ён напісаў музыку да «Сялянкі» В.Дуніна-Марцінкевіча, і ў сувязі з гэтай падзеяй прысутнічае ва ўсіх беларускіх даследаваннях, прысвечаных літаратуры, тэатру і музыцы сярэдзіны XIX стагоддзя. Шырокай вядомасці «Сялянка» яму не прынесла, нават музыка да яе захавалася часткова. Папулярнасць ён атрымаў раней, у 1848 годзе, дзякуючы оперы «Галька». Яшчэ адна шырока вядомая опера – «Страшны двор» была напісана ў 1865 годзе, а наогул Манюшка стварыў 20 опер і аперэтаў, тры балеты, пяць месаў, два рэквіемы і болей за 300 песень, у тым ліку і «Паходную песню літвінаў» на словы паэта Уладзіслава Сыракомлі.


Вежа «старога корпуса» палаца

Нарадзіўся Станіслаў Манюшка за 10 вёрст ад Смілавічаў, у фальварку Убель, які належаў ягонаму бацьку. Мы ведаем, як выглядала гэтае сямейнае гняздо будучага кампазітара дзякуючы гравюры Напалеона Орды. Дом драўляны, аднапавярховы, з мансардай, гонтавым дахам. Гэта, канечне, не вясковая хата, але зусім не палац. Недалёка ад дома стаяла па модзе таго часу капліца. Дом згарэў у часе вайны, капліца знікла яшчэ раней, і зараз мясціна, дзе была сядзіба з панскім домам і гаспадарчымі пабудовамі, куды прыязджалі госці, дзе гучалі першыя творы Манюшкі, зарасла лесам і абкружана парканам санаторыя «Волма». Растуць сосны і на месцы парку, што быў перад сядзібай, зарос кустоўем прыгожы луг перад Волмай, і сама яна засмечаная, мае схільнасць забалоціцца і загінуць. Калі б не быў на месцы вядомай калісьці сядзібы пастаўлены памятны знак, ніхто б сёння не здолеў адшукаць месца, дзе гадаваўся прызначаны служыць музыцы Стась Манюшка. Зараз нават уявіць цяжка, што тут, на беразе Волмы, збіралася часам уся вялікая сям’я Манюшак і слухала «Пана Тадэвуша», якога чытаў з тайна дасланага парыжскага выдання родны дзядзька Станіслава Казімір. Бацька кампазітара, Чэслаў Манюшка, няблагі маляваў, уладкаваў у мансардзе майстэрню, дзе разам са сваяком, слынным мастаком Валентам Ваньковічам, бавіў час за мальбертам. Маці Станіслава мела выдатны голас, добра музыцыравала і заахвоціла сына да музыкі. Тут, у страчанай Убелі, можна зразумець, як бясследна могуць знікаць усе знешнія прыкметы цывілізацыі і культуры. Быццам і не жыў на гэтым месцы ніхто да таго часу, як збудавалі тут не вельмі даўно невялікі санаторый. А некалі, як ведаем з успамінаў кампазітара, чуў ён тут таямнічую музыку званоў смілавіцкага касцёла, хадзіў туды паслухаць спевы хору ва ўніяцкай царкве, і гэта мясцовыя сялянскія напевы і танцы, і шэпат Волмы, і загадкавы шум Валмянскіх лясоў адлюстраваліся ў «Гальцы», надаўшы ёй бессмяротную прывабнасць.


Палац Манюшак. Стары і новы корпус аб’яднаны зашклёным пераходам, у якім месцілася аранжэрэя. Здымак пачатку XX ст.


Так выглядае стары корпус у нашы дні


Сённяшні выгляд «новага корпуса» (збудаваны ў пачатку XIX ст.)

У Смілавічах малы музыка любіў гасцяваць, бо яны належалі ягонаму дзеду, таксама Станіславу Манюшку. Безумоўна, што з усіх Манюшкаў менавіта стары Стась быў найбольш моцнай асобай – ён здолеў узняць заняпалы род з беднасці, стварыў умовы, пры якіх спраўдзілі свае таленты ягоныя шэсць сыноў і чатыры дачкі. У апошнюю чверць XVIII стагоддзя, гэты Станіслаў Манюшка стаў арандарам фальваркаў Смілавіцкага графства, належнагаа вялікаму гетману літоўскаму Міхалу Казіміру Агінскаму, дарэчы, вядомаму кампазітару, аўтару шматлікіх паланезаў. У Смілавічах на тым месцы, дзе стаіць зараз палац, стаяў тады пабудаваны Агінскімі замак з бастыёнамі, ровам і валамі. Шырокі чын жыцця Міхала Казіміра абцяжарыў яго пазыкамі і даўгамі на астранамічную суму ў некалькі мільёнаў залатых. Ягоныя смілавіцкія арандатары маладыя ўчэпістыя да грошай Манюшка і яго прыяцель Ашторп, выплачваючы гаспадару дамоўленую рэнту, збілі сабе на арэндаваных гаспадарках такі капітал, што змаглі крэдытаваць Агінскага, і ў выніку ён саступіў ім за даўгі Смілавічы, Дукору, Убель і яшчэ мноства малых маёнткаў. Смілавічы з наваколлем дасталіся Станіславу, і з цягам часу тут рассялілася вялікае сямейства Манюшкаў. Дарэчы, і мураваны смілавіцкі касцёл пабудавалі Агінскія і вялі ў ім свае пахаванні, а потым тут хавалі Манюшак.


Старасвецкая алея смілавіцкага парка

Прыгожы палац быў збудаваны ў модным на пачатку XIX стагодддзя стылі неаготыкі з выкарыстаннем замка Агінскіх. Адначасна каля яго быў закладзены парк. Зараз пра яго планіроўку нагадвае старая ліпавая алея. Гэтай алеяй можна прыйсці на жывапісны бераг Волмы, які аздоблены экзатычнымі івамі. Старыя дрэвы, болей за метр у дыяметры, нахіліліся да вады, нібыта шэпчуцца з ёй пра вядомыя ім тайны даўніны, пра «добрыя старасвецкія часы». Да старога будынка палаца быў пазней прыбудаваны гэтак званы «новы корпус». Ён на стагоддзе маладзейшы. Новы палац быў аддадзены пад калекцыю карцін, бібліятэку, архіў Агінскіх, Манюшак, Ваньковічаў, з якімі Манюшкі парадніліся. У «старым» корпусе былі бальная заля, більярдная і спальныя пакоі. Зараз захаваны «новы корпус» функцыянуе, хоць і пацярпеў пэўныя архітэктурныя пераробкі – дабудаваны недарэчны тамбур да ўваходу, вокны заменены на сучасныя суцэльнашкляныя. Раней перад палацам быў сад. Распачынаў гэты батанічны сад і сад яблычны вядомы батанік Андрэй Снядэцкі. Зараз значная частка саду занятая Корпусам завочнага сельскагаспадарчага каледжа.

Побач смілавіцкай сядзібы Манюшкаў здаўна існавала мястэчка. Мяжа аседласці паспрыяла таму, што значную частку насельніцтва складалі габрэйскія сем’і. Яны далі Смілавічам яшчэ аднаго слыннага ўраджэнца – выдатнага мастака Хаіма Суціна. Яго добра ведаюць на Захадзе і вельмі мала ў нас. Ён нарадзіўся ў Смілавічах у 1893 годзе ў шматдзетнай сям’і местачковага краўца, вучыўся жывапісу ў Мінску ў мастака Кругера, потым паехаў у Парыж, дзе сябраваў з Мадзільяні і здабыў такую ж шырокую славу. Цяпер на аўкцыёнах жывапісу яго карціны ацэньваюцца ў мільёны даляраў, і музеі лічаць за гонар і шчасце мець палотны Суціна. Адной з прычынаў невядомасці майстра на радзіме была і тая, што ў кастрычніку 1941 года немцы расстралялі ў Смілавічах 2 тысячы габрэяў, паклаўшы ў магілу ўсіх, хто мог бы ўзгадаць пра дзіцячыя і юнацкія гады мастака.

Пры ўсіх зменах і стратах Смілавічы захавалі прывабную рамантычную атмасферу. Характар навучальнай установы спрыяе захаванню таго датэхналагічнага стану наваколля, якое ўяўляецца як старажытны першапачатковы смілавіцкі пейзаж. Тут добра марыць, тут узгадваецца прошласць, тут відочна бачыцца змена эпох і пакаленняў, тут лёгка зразумець, чаму Станіслаў Манюшка абяссмерціў смілавіцкія галасы ў сваёй «Гальцы» і чаму такімі засмучонымі бачыў людзей Суцін.

**Фотарэпартаж Уладзіміра ШЛАПАКА**


Цагляная фігурная агароджа сядзібы


Хаім Суцін


Сведкі 200-гадовай даўніны


Памятны знак – вось адзінае што нагадвае пра сядзібу Убель





Старадаўняя уязная брама


Калісьці тут панаваў парадак


Партрэт работы Х. Суціна


Від на Волму ля сядзібнага парка

Вітак ЧАРОПКА

# Экзістэнцыі



*

З радасцю і сумам углядаецца старасць у час. Радуецца, што перажыла юнацкае глупства, і сумуе, што столькі згубіла з-за гэтага глупства дзён жыцця, калі яны здаваліся бясконцымі, а цяпер падлічаны ўжо да апошняй хвіліны.

І калі невялікія непрыемнасці ў юнацтве не азмрочвалі вялікай прыемнасці жыць, то цяпер вялікая непрыемнасць блізкага разліку не азмрочвае маленькай прыемнасці быць.

*

Ва ўтульным коле сям'і за сытным сталом нараджаюцца нясмачныя думкі, як халасцяцкая ежа. А у бяспамятным вар'яцтве губляюцца гады і, дзесьці пад пылам іх - залацінкі таленту. Як добра, што ў ветра няма такой сілы, каб сваім подыхам здуць з гадоў пыл часу, бо мы аслеплі б ад бляску золата.

*

Прысніўся сон, што патрабавалі ад мяне прыняць правы моцнага. Прапаноўвалі багацце, уцехі, уладу над слабейшымі. Спакушалі прыгажосцю жанчын - не спакусілі. Не прыняў я гэтага права. Выгналі мяне басаногім у свет. Пайшоў я па дарозе да сяброў, дзе няма мацнейшых і слабейшых, а роўныя з роўнымі.

Ды вось тры машыны не саступілі адна адной дарогі і сутыкнуліся са скрэжатам. Я прачнуўся і аблягчона ўздыхнуў - гэта ўсяго сон. І гэта я не падуладны праву мацнейшых. Заснуў. А на мяне накідваюцца ахоўнікі права мацнейшых. Гэта я вінаваты ў аварыі, і тыкаюць носам у груд перакарожаных машын. «Вось, што ты нарабіў і будзеш адказваць і за ўсё адкажаш, і за тое, што правы мацнейшых не прыняў». Тады я ўкленчыў пра міласць.

Калі ж я прачнуўся у жаху, то зразумеў, які я кволы чалавек, і зненавідзеў сябе за тое, што спалохаўся смерці, бо баюся жыцця.

*

Штораз, адыходзячы, не ведаю,
ці вярнуся назад.
Не веру ў вешчуноў, бо хлусню
прарочаць яны.
Не давяраю праўдарам, бо думаюцьаб
праўдзе сваім.
Разам з усімі тапчу нагамі месцы
нашых трагедый,
спяшаючыся, не ведаючы куды,
у нікуды.
Таму, што ўсе такія, як я, і я такі,
як усе.
І стаю перад адчыненымі дзвярыма,
чакаючы не ведаю чаго.
Аднойчы вярнуўся, убачыў іх.
Што прывяло іх?

А яны мовілі: «Яна паміpae». Бяссільна ўпалі яе словы: «Ты вярнуўся. Як мне халодна», - і на векі заплюшчыла вочы. Немагчыма прачнуцца ад гэтага сну, немагчыма вярнуцца ў мінулае, а магчыма пайсці і не вярнуцца. Галоўнае не азірацца, не ўспамінаць, і тады знайду згублены рай.

*

Улюбіўся ў Ваш смех. Вы так шчыра смяяліся, што паверыў Вам. Вы так смяяліся шчыра, што і мне стала шчасліва. Захацелася спаць, як дзіця, на Вашых далонях і сніць, як расплюскалася неба сінечай па валошкавым полі. Празрыстым трымценнем прымроіцца па ім хваля-ветрык Вашага смеху - так шчыра, так жыва - і гэта жыццё, і я ўлюбіўся ў яго, бо ў ім ёсць Ваш смех. Спіце і сніце, як я называю Вас закаханачка каханая невядомая мне, будзьце шчаслівай, як і я. І шчыра пасмейцеся з мяне.

*

Зараклюся глядзецца ў люстэрка. Бачыла яно мой грэх, і прыгажосцю тваёй апраўдвала тваю здраду. З таго часу зарокся глядзецца ў люстэрка, каб не паверыць, што яшчэ я жыву без цябе.

А люстэрка табе казала, што самая пекная ў мяне. Гэта цябе і згубіла. Разбіў я тое люстэрка, і з усіх скрылікаў яго твае вочы глядзяць з дакорам, як надзея растрачаных надзей. Але гэта толькі памылка нястрачаных вачэй.

*

Без жадання бабы Жаны нічога не будзе, але жадання ў бабы Жаны не было, няма і не будзе. І памяць мне кажа, што калісьці яна была мною жаданай, аж млеў каля яе дзвярэй. А цяпер яна баба Жана, а я хто? А я, пэўна, той ухажор за той, хто таксама стане бабай такой.

Вызваліцца мозг ад спакусы. Вызваліцца час для любові.

Толькі ўсе ўжо бабы, а дзеўкі яшчэ не нараслі.

*

І ўсё будзе, і ўсё будзе, трэба толькі чакаць, а калі ўсё збудзецца, трэба дзякуй сказаць. Нехта расплоціцца за маё чаканне, нехта не дачакаецца, нехта не паверыць, а нехта і паверыць, нехта будзе наракаць, нехта... Я пры чым? І не дазваляецца даводзіць, што самі такія. А гэты нехта, можа, і ты. Здавалася табе, што сёння дні такія працяжныя, а заўтра зразумееш, якія яны хуткасяжныя, што толькі імгненне трэба было чакаць. А калі не будзе, дык гэта таксама ўваходзіць у панцце ўсё будзе, калі нават і не будзе.

*

Што-небудзь прыдумаю і гэтае гора агораю, а калі не, то перажыву. А хто быў не са мной, той хай будзе без мяне, а хто быў са мной, то і з ім буду я. І хто каму дапаможа, стане ясна - адно ведаю, сябры пазнаюцца ў горы, а калі не, тады ворагі становяцца сябрамі. Не буду на гора наракаць - яно паказала, хто ёсць хто, а хто ніхто.

P.S. Не здзіўлюся, што самы верны і адданы - мой каток Мурыжык, які лагодна мурыжыць побач на сталe і як сфінкс пагладзе на мяне бурштынавымі вачыма. Каб ён мог казаць. Але і без слоў я разумею яго, бо ў яго ёсць любоў без здрады. Падзяляе ён са мной цяпло нашых цел.

Як ваду ўпітвае нашы грэшныя звалокі зямля. Час рассее капцы нашых магілак. І на нашых касцях новае пакаленне пабудуе свой дом. Але прыйдзе наступнікаў чарада, каб разбурыць будыніну і будаваць усё зноў. Нічога не застаецца ад чалавека для памяткі мінулым часам, нават імёны і тыя страцілі свой сэнс. Цвяліць сэрца трывога, як разумееш, што і будучыня асуджана на звод.

*

Кажам, ісціна ў віне. А якая ісціна патрэбна мне? Колькі выпіта падманлівага трунку, а не наблізіўся да яе ні на думку. Няма ісціны ў віне, а толькі прывіднае спазнанне сябе, калі ўяўляеш, што ты самосць, ты пан, ты ягамосць і не залежыш ад абставін і людзей. А п'яная ісціна ў віне на вуха п'янь балмоча: «Ты моцны, мудры і непаўторны, уровень з бегам часу і ў нагу ідзеш з хадой падзей, як сам пан Бог. Спазнай ісціну ў сабе і не шукай яе ў віне. Убачыш ты яе цвярозымі вачыма ў бутэльцы выпітай на дне».

І што я бачу - эфемерную істоту пустату, а як яна істота, то натуральна, істотная, а істотная, значыць велічыня істотная, то амаль што абсалютны нуль.

*

Жыла-была сабе на свеце сэкс-машынка і карысталіся ёй усе, каму наспела патрэба. Аднойчы захацелася ёй любіць, не тое, каб любіць, а для прылiку, як у людзей прынята нармалёвых. Палюбіла яна рашпіль, а яму абы зубамі прайсціся па гладкай скуры металу - вось і ўся любоў на кароткі час, бо зубы стачыліся ад гадоў. Не задавальняў яе гэты зломак. Сэксуальны механізм, як вечны рухавік, раскручвае абароты гарачай пажадлівасці. Як жорны млына перамолваюць зерне ў жываносную муку, так і кола жарсці слёзы пераліваe ў блёклыя воды Леты і што пара высыхаюць яны ў нябёсы.

Калі ж нябёсы будуць плакаць над зямлёй, праводзячы цябе ў апошні шлях на металалом, то ведай - не дождж гэта, але анёлаў слёзы па табе.

*

Неістотна істотнае, а менавіта істотна неістотнае. Незаўважныя дробязі нараджаюць уяўную значнасць, якую не абмінуць, не хітра неяк падмануць, а трэба асуджана прызнаць як вырак лёсу. Не варта і шкадаваць, бо не вернешся назад ва ўспаміны, каб прыняволіць волю выпадковасцей дробязяў, бо іх сляды вытаптаны шляхамі, па якіх цвёрдай хадой крочаць наканаваныя падзеі, але гэта ўжо неістотна.

*

Не хачу быць кімсьці, дастаткова, што, як шэрая мыш, лажу па закавулках чужых думак, абмінаючы ў пастарункавых пастках дармавы пачастунак інстынктаў. Досыць, што грызу ветхія запаветы і рэдкія інкунабалы, ажно на зубах горкі прысмак пыльных стагоддзяў. Не хачу і быць кімсьці, я і так самадастатковы. Кідаю на прасцяг часу словы і забываюся на іх. І калі час праверыць час, то верне мне словы, надаўшы ім свой сэнс часовы. Не трэба мне талент, і геній не збавіць, калі ёсць прызванне быць дастаткова самадастатковым.

*

Над сінім небам Атлантыды сустрэліся нашы дзве душы. Быць можа, гэта лёс, то, пэўна, лёс. І цяпер ён побач - добразычліўца-кат. Знайшоў ён нас і звёў у адзін свет, каб разлучыць, як робіць ён заўсёды. І там на зямлі такое ён тварыў. Кожны раз у апраўданне казаў: «Я твой лёс і дабра табе жадаю». А гэтае дабро горш за ўсе пакуты быць без яе. Такі вось лёс. І цяпер ён трэці лішні, і на мяне ён прад'яўляе права, як мой дабразычліўца.

Вось яна ўніз сарвалася ў бездань Атлантыды. Услед кінуўся б і я, каб не эфемерная цвердзь пад нагамі. Як і раней, і цяпер я адзін, і толькі жартаўлівы лёс, як мілы купідон, кладзе колкае вастрыё частаўкі-стралы на нацятую струну арфы-лука, каб ірванууся з параненага сэрца яго любы спеў кахання... І загучаў на цэлы свет!

*

Філасофскія асацыяцыі выклікае гэты нацюрморт, хоць кажуць, што ён прыгнятае сваёй змрочнай атрыбутыкай. А мне нагадваецца: ісціна ў віне! Хлеб наш надзённы дай нам сёння! Момэнта моры! А калі пагладзець з хрысціянскага боку, то віно - гэта кроў Яго новага запавету, што за многіх праліваецца, а хлеб ёсць цела яго. І ўжо Ён ведае свой шлях на Галгофу, месца, якое называецца Месца Чарапоў. Дык што там на гэтым малявідле? - гладыш з віном, акрайчык хлеба і чэрап. Вось сімвалы твае, жыццё! І нагадваюць яны, што жыццё хуткасяжнае, а мастацтва даўгавечнае. Хоць мастацтва толькі памятка часу, які знікае ў вечнасці, але і вечнасць выпрабоўвае час і толькі даўгавечная за яго - памятка па Ім.

*

Патыхаюць цянікі смуродам задымленых гарадоў, потам вірлівага жыцця. Бягуць цягнікі па нацятых нервах шляхоў навыперадкі з часам. І як пасланцы вялікага свету пульсацыяй хуткіх колаў абуджаюць цягнікі сонную ціш прыдарожных вёсак.

І калі стомленыя бегам цягнікі спрацавана ўздыхнуць на канечным вакзале, то з парай разгарачанага механізму запахне палынным водарам малага свету, дзе пульсуе крыніца вытокаў каля калыбкі хуткасяжнага часу.

*

Не называйце мяне злосным і няўдзячлівым. Я аддаў, што мог аддаць. Хворай маці аддаў я міласэрнасць і вёў яе ад края магілы. Удзячны маці за маё нараджэнне. Каханай ахвяраваў я каханне, якое яна кінула пад ногі іншаму. Удзячны я каханай за тое, што не забрала маё прызванне. Прысвяціў я прызванне Радзіме. Толькі яе сынкі-байструкі зганьбавалі гонар маёй Радзімы. Тады я аддаў ёй спагаду і слёзы ганьбы выцер з яе вачэй. І паранейшаму я ўдзячны Радзіме за тое, што веру ў яе адраджэнне.

*

Калі яна пайшла назаўсёды, то свет яе загінуў, які мне быў не патрэбны. На ўспамін пра яе засталіся фатакарткі, на якіх мне невядомыя людзі. Настойліва гукаецца ўспамін да мяне, просіцца ўпусціць яго да сэрца. Толькі нельга жыць адным успамінам, але і без яго адчуваю сябе адзінокім ва ўсім свеце.



Хімеры славы

Родны кут

# Забойца імператара

Алесь Чобат

Імператар Аляксандр II загінуў 1 сакавіка 1881 года у тэрарыстычным замаху, арганізаваным у Санкт-Пецярбургу канспіратарамі-сацыялістамі з «Народнай Волі» на чале з Сафіяй Пяроўскай, дачкой генерала. Канвой імператара быў атакаваны ў белы дзень двума баевікамі, узброенымі ручнымі бомбамі. Адна бомба разнесла на кавалкі імператарскую карэту, другая смяротна параніла самага імператара. Загінуў на месцы і той «неизвестный молодой человек», які кідаў бомбу...

21 красавіка 1881 года віленскі генерал-губернатар Татлебен атрымаў з Санкт-Пецярбурга пакет з загадам неадкладна высвеціць асобу царазабойцы. Да загаду дадавалася фатаграфічная картка баевіка-самагубцы, «с мёртвого», і асобныя дадзеныя на яго, якія ўжо ведала следства. («С мёртвого», гэта значыць з адрэзанай ад цела галавы баевіка, якую следчыя захоўвалі ў посудзе са спіртам – маразільных шафаў у той час не існавала.)

Сталічнае начальства паведамляла Татлебену, што прозвішча царазабойцы – «Гриневицкий» – падала эміграцкая сацыялістычная газета «Голос» у Швейцарыі. Следства падазравала двух братоў Грынявіцкіх, жыхароў Санкт-Пецярбурга і «дворян Гродненской губернии». Старэйшы, Іван Грынявіцкі, быў выключаны з Пятроўскай Земляробчай і Лясной Акадэміі за арганізацыю несанкцыянаванай «студенческой столовой» (трэба думаць, улады сцерагліся якой-небудзь падпольнай касы ўзаемадапамогі, ці гуртка прапагандыстаў) – а па тым выключэнні паступіў «вольноопределяющимся» у вайсковую службу. І то не абы-куды, а падафіцэрам 2-й артылерыйскай Ізмайлаўскай брыгады Лейб-Гвардыі, якая стацыянавала пад сталіцай у Царскім сяле. Там жа, разам з малодшым братам Ігнатам, які быў зарэгістраваны ў дамавой кнізе як студэнт Тэхналагічнага Інстытута, займаў падафіцэр агульны пакой – кватэра памяшчалася насупраць імператарскага палаца, літаральна у дзесяці кроках ад паркавай брамы. Пры тым следства паведамляла, што Грынявіцкія зніклі з кватэры прыблізна за тыдзень да забойства Аляксандра II, а старэйшы брат, падафіцэр Іван Грынявіцкі, перад тым нават ці то быў звольнены са службы, ці сам звольніўся, – пакуль у гэтай справе ішло следства, – са сваёй 2-й лейб-гвардзейскай брыгады.

Спісак шляхты Гродзенскай губерні паказваў, што сапраўды, ёсць цэлы вывадак Грынявіцкіх, а нават ёсць ці то фальварк, ці нават дробны маёнтак, бо «имение Гриневичи Великие Бельского уезда», гэта недалёка мяжы з вечна мяцежным Каралеўствам Польскім – у 1888 годзе імператар Аляксандр III перайменуе яго ў «Прывіслінскі Край», а Віленскае генерал-губернатарства з дадаткамі Віцебскай, і Магілёўскай губерняў – у «Паўночна-Заходні».



Следчы афіцэр і асабісты паручэнец генерала Татлебена рушылі чыгункай з Вільні ў Беласток, а адтуль – у стык Крышынскай і Белавежскай пушчаў, абмінаючы павятовае мястэчка Бельск, проста да Вялікіх Грыневічаў.

«Опознание с мертвого» пры дапамозе фатаграфічнай карткі праводзілі з удзелам усяе шляхты з Вялікіх Грыневічаў і наваколля. Татлебенаўскія афіцэры знайшлі наступных асобаў, родных ці знаёмых братоў Грынявіцкіх:

Іакім Міхал Грынявіцкі,бацька і гаспадар Вялікіх Грыневічаў;

Ядвіга Горская (прозвішча мужа), дачка шляхціча Андрэя Дамброўскага, родная сястра маці Івана і Ігната Грынявіцкіх;

Восіп Дамброўскі, яе брат, родны дзядзька братоў Грынявіцкіх, уладальнік маёнтку Белянаўшчына, таго ж Бельскага павета;

Іван Фуровіч, адстаўны губернскі чыноўнік, сусед, прыяцель Іакіма Грынявіцкага.

З рапарта на імя Татлебена вынікае, што бацька ад яснага адказу «уклонился»(!), але астатнія, гэта значыць цётка, дзядзька і сусед Фуровіч прызналі на фатакартцы «с мёртвого» меншага з братоў, Ігната Грынявіцкага. Такім чынам, сацыялістычны швейцарскі «Голос» напісаў праўду, дапамог следству... І следства працягвалася.

## Брат і сёстры

Апроч сыноў, гаспадар Вялікіх Грыневічаў меў яшчэ дзвюх дачок. Старэйшая жыла з мужам, інжынерам станцыі Алькенікі на лініі Вільня-Дзвінск Варшаўска-Санкт-Пецярбургскай чыгункі. А да старэйшай дачкі на ўсё цяпло выехала ў госці і малодшая, 17-гадовая. Маёнтак Вялікія Грыневічы – гэта падпушчанская глуша, у параўнанні з якой ст. Алькенікі, дзе часам праязджаў ажно «царскі поезд», гэта кавалак цывілізацыі і... шанц на знаёмства з кім-небудзь з калегаў-інжынераў таго ж Пылаева. Але цікава, што старэйшы сын, нядаўна лясны студэнт і лейб-гвардзеец Іван Грынявіцкі быў у Вялікіх Грыневічах «яшчэ за снегам», альбо дзесьці ў другой палове лютага, а цяплом выехаў да сёстраў і сваяка Пылаева ў Алькенікі.

Абодва афіцэры з Беластока тэрмінова тэлеграфавалі ў Вільню, што даведаліся – і адтуль на Алькенікі рушыў incognito яшчэ адзін афіцэр, каб узяць пад кантроль... усіх чатырох – Грынявіцкага, сёстраў і Пылаева.

«Негласно», разам з паліцэйскім станцыйным «приставам», віленскі камандзіраваны назіраў за «чацвёркай» тыдзень і пацыху апытваў алькеніцкіх, хто, калі і адкуль да іх прыязджаў, як доўга хто быў. Нічога годнага паліцэйскай увагі паліцыя не знайшла, хіба па-за агульным дзіўным станам старэйшага Грынявіцкага – выглядаў хваравітым, нервовым, напружаным, усё збіраўся... недзе выехаць, але ні Пылаеў, ні сёстры не давалі грошай.

З Вільні тэлеграфам прыйшоў загад этапіраваць Івана Грынявіцкага да бацькі ў Вялікія Грыневічы, але без арышту і канвою, каб выезд яго быў натуральны, «по собственному волеизъявлению». Пры гэтым шэф Віленскай паліцыі прапанаваў, каб Грынявіцкі быў пад адкрытым наглядам паліцыі і не мог пакідаць Вялікія Грыневічы апроч аднаго разу штодзень, каб адзначацца ў начальніка паліцыі ў Бельску.

Але генерал-губернатар Татлебен распарадзіўся пра той самы «негласный надзор» – каб ніхто, нават сямейнікі, ні пра што не ведаў. (Над усім сямействам, трэба думаць, таксама быў «негласный надзор»). Тым больш, што на загад з Санкт-Пецярбурга Грынявіцкім не паведамілі, у сувязі з чым яны апазнаюць «мёртвую голову» Ігната. Чым кіраваўся губернатар Татлебен, дарэчы, у маладосці выдатны вайсковы інжынер і герой Севастопальскай абароны 1854 года? Маглі быць дзве прычыны: па-першае, а раптам (хоць і малаверагодна) нехта з «народовольцев» усё ж наведае Вялікія Грыневічы; па-другое, хваравіты Іван, – з войска паведамлялі, што ён звольніўся сам, «по слабому здоровью», але з начальствам не ладзіў, – нядаўна са сталіцы, ды пад паліцэйскім «надзором», быў бы ў сваёй глухмені сенсацыяй, і раней ці пазней пайшла б чутка пра брата-царазабойцу. Што ў мяшаным праваслаўна-каталіцкім Бельскім павеце магло скончыцца чым заўгодна, напрыклад, пагромамі каталікоў Грынявіцкіх, «полячишек и цареубийц» навакольнымі праваслаўнымі мужыкамі – навошта Татлебену былі рызыка і лішні клопат?!

Бельская паліцыя акуратна дакладвала ў Вільню, што «негласный поднадзорный» Іван Грынявіцкі бязвыезна жыве ў бацькавым доме, але слабее з кожным днём – і нарэшце злёг, амаль не ўстае з ложка. У сувязі з чым Татлебен распарадзіўся «справу Грынявіцкага» з апаратнай работы зняць і пакласці «в архив, секретно».

Больш ніякіх звестак пра бацьку і сына Грынявіцкіх няма, а ў наступных пакаленнях Вялікія Грыневічы былі ўжо ў другіх руках. Перарваўся яшчэ адзін беларускі шляхецкі род на Падляшшы...

## Сваякі

У сталіцы імперыі падляшанін Ігнат Грынявіцкі, які не меў там нікога па-за братам Іванам, які таксама не знайшоў сабе сталага месца, прабыў не больш двух гадоў. Не зразумела, як за такі кароткі час можна трапіць – «чужынцу!» – да глыбока законспіраванай «Народной Воли», ды яшчэ ў групу адборных тэрарыстаў-царазабойцаў. Тлумачэнне, аднак, вельмі простае. Што тады, што цяпер непасрэдныя «бамбісты» – не забудзем, разам з Аляксандрам III Ігнат падарваў самога сябе, і сканаў яшчэ раней за імператара – ніколі блізка не належаць нават да разведкі і тэхнічнай службы, не тое каб да палітычнага цэнтра падполля. Быў просты дзень і час, калі падышла чарга Грынявіцкага – хто ведае, колькі такіх «жывых запалаў» для бомбаў інжынера-ракетчыка Кібальчыча прыгатавала разведка Сафіі Пяроўскай у вучэльнях Санкт-Пецярбурга?! Таму ў пэўным сэнсе нават справядліва, што вельмі доўгі час імя царазабойцы было мала каму вядомае, па-за падполлем ці паліцыяй, зразумела – бо мог быць Грынявіцкі «неизвестным молодым человеком», а мог нехта другі. Тым не менш, дазволю сабе дзве версіфікацыі, бо там, дзе неможна ступаць гісторыку, – няма архіваў – мае права хадзіць літаратар; толькі папярэджваць, што далей будзе толькі яго версія, згодная з яго разуменнем і яго рэтраспектывай гісторыі...



У тым самым архіве, дзе захоўваецца «дело Гриневицкого» з 1881 года, ёсць справа пра міфічную, бо яе так і не знайшлі – хоць старанна шукалі – «Гродненскую революционную организацию», а справа, заведзеная была... вясной 1864 года, калі мінулагодняе Лістападаўскае паўстанне даўно згарэла агнём, а цяпер у мястэчках «гулялі» казакі ды «старослужащие», а ў губернскіх сталіцах парадкавалі архівы, турмы і калоны высланцаў у кайданах.

У Гродзенскім агульнагубернскім спісе «зачинщиков» найдоўгі раздзел мае тытул «Соколка і Уезд»; там фігуруюць дзесяць (!) найбольш небяспечных «смутьянов и бунтовщиков», узначальваюць іх:

1) «Поручик Валериан Врублевский, начальник Сокольского Егерского училища, – он же был учредителем мятежной организации в Сокольском Уезде;

2) Иван Гриневицкий, мировой посредник в Сокольском уезде – он же, как видно из бумаг, найденных при обыске в имении Павловичи помещика Олендского, был начальником Уезда...

Врублевский скрылся в неизвестном направлении, Гриневицкий предан вторично Полевому суду...».

Альбо Іван Грынявіцкі з таго самага шляхецкага клана, з Вялікіх Грыневічаў, – хто ведае, магчыма другі Іван быў так хрышчаны ў гонар продка-пакутніка – у рэшце рэшт той трапіў «в вечную каторгу». Адтуль не вярталіся – ні па амністыі 1867 года, ні па поўнай амністыі 1883 года.

Маці ж Івана ды Ігнацыя Грынявіцкіх, Дамброўская, з таго самага клана, адкуль афіцэр рускай службы капітан Яраслаў Дамброўскі, арыштаваны напярэдадні Студзеньскага паўстання 1863 года як кіраўнік канспірацыйнага «Союза русских офицеров в Польше». Капітан Даброўскі быў адбіты калегамі з канспірацыі па дарозе ў Сібір і перапраўлены ў Еўропу. У 1871 годзе, разам з паручнікам Урублеўскім, апынуўся ў генералах Парыжскай Камуны.

## Прастора таямніцы

Так што царазабойца Ігнат Грынявіцкі, што з боку бацькі, што з боку маці, паходзіў з раду з пэўнымі і вядомымі традыцыямі, сямейнымі легендамі. Няма сумневу, што і сам ён ведаў свой радавод. І што пра Грынявіцкага, блізкага да самых Урублеўскага з Дамброўскім, маглі ведаць тыя, хто шукалі ў сталіцы маладых правінцыялаў, якія пасяліліся тут нядаўна і якія гатовыя на ўсё.

(Публікацыя, і такая аператыўная, швейцарскага «Голоса» гэта лепшае сведчанне, што «аддзел кадраў» сацыялістычнай канспірацыі працаваў больш спраўна, чым абцяжараныя грыфамі «секретно» аддзелы рускай паліцыі.)

Але калі дапусціць, што Ігнат быў узяты да канспірацыі на «жывую бомбу», а раней да таго ж маглі прыцягваць Івана, зважаючы на дзіўныя паводзіны таго перад і пасля 1 сакавіка 1881 года, то гэта амаль аўтаматычна выключае версію, што ён мог мець нейкае дачыненне да першай народніцкай беларускай, хоць і «русскоязычной» канспіратыўнай газеты «Гоман». (Любая канспірацыя, тым болей, такая добрая, як «Народная Воля», не прымае друкароў і аўтараў у адным кошыку з баевікамі). Тут з прадстаўнікоў «Девяти западных губерний» больш прыдатныя да друкаванага слова ды «Беларускага сепаратызму» былі б тыя ж Фраленка, Стафановіч, Брашко-Брашкоўская, Асмалоўскія... «Нерусских» у тым расійскім рэвалюцыйным руху заўжды было болей, чым «истиннорусских» – зрэшты, гэта таксама было сярод контрразведкі і паліцыі...

У энцыклапедыях і манаграфіях савецкай эпохі, нават у «народовольческой» папулярнай літаратуры імя Ігната Грынявіцкага згадваецца часта, але неяк цьмяна, у тумане; пішуць агулам, што «дваранін», але далей аўтары адносяць яго да... Мінскай, другія нават да Магілёўскай губерні.

Што ж, Грынявіцкіх тут было і ёсць шмат, але энцыклапедыі, манаграфіі і папулярная літаратура не падаюць ніякіх падрабязнасцей пра сямейства і радавое гнязда Грынявіцкага, хоць цытаваныя вышэй дакументы захаваліся і знаходзяцца ў Нацыянальным Архіве Беларусі.

# Стань зоркай!

***У новым сезоне на тэлебачанні робяць стаўку на серыялы і шоу***

Для тэлевізіёншчыкаў год пачынаецца ў верасні. Скончыўся сезон адпачынкаў, і народ пакрысе вяртаецца, каб пабавіць час, да тэлевізараў. А аздобленыя новымі праектамі тэлеканалы распачынаюць барацьбу за гледачоў, ці дакладней за іхнія вочы. Про тое, што чакае нашых тэлеманаў на «блакітных экранах» бліжэйшым часам, расказалі журналістам на прэзентацыях сваіх новых сезонаў кіраўнікі двух беларускіх каналаў.

Першы нацыянальны ў новым сезоне абяцае быць больш адкрытым і даступным для тэлегледачоў і прадастаўляе ім права ўплываць на ягоную эфірную палітыку. Асабліва павінны ўзрадавацца аматары спорту. Тэлеканал пашырае колькасць спартовых праграмаў у сваім эфіры. Напрыклад, кожны тыдзень па аўторках і серадах будуць трансляваца матчы Лігі чэмпіёнаў УЕФА, і тэлегледачы праз галасаванне на сайце Белтэлерадыёкампаніі (www.tvr.by) могуць выбіраць, які матч яны хочуць паглядзець у чарговым раўндзе гэтага турніру.

З адкрыццём новага тэлесезона ад 21 верасня на новы фармат вяшчання перайшло АТН. Доўгіх і цягамотных выпускаў навінаў не будзе, пра тое, што адбылося ў Беларусі і свеце, нам цяпер стануць расказваць кожную гадзіну і зусім караценька. Па суботах для жанчынаў будзе выходзіць тэлечасопіс «Шпілька», у ролі вядучага (-ай) праграмы «Усе нармальна, мама!» цяпер зможа паспрабаваць сябе любы жадаючы, а здзейсніць вашыя незвычайныя жаданні абяцаюць стваральнікі праграмы «Любы капрыз».

Самыя значныя праекты канала ў новым сезоне - гэта ліцэнзійнае ток-шоу «Аднакласнікі» з Кірылам Слукой і народны серыял «Мая краіна». У ток-шоу «Аднакласнікі», якое ўжо паказана ў 17 краінах свету і паўсюдна мела вялікі поспех, гледачы змогуць паназіраць за беларускімі зоркамі ў кампаніі сваіх аднакласнікаў і настаўнікаў, якія шмат чаго новага распавядуць аб дзяцінстве куміраў. У студыю запрашаюць дзвюх знакамітых асобаў, якія з дапамогай сваіх школьных сяброў будуць спаборнічаць адзін з адным у нейкіх конкурсах.

Што да народнага серыялу «Мая краіна», то адразу трэба адзначыць, што Першы нацыянальны канал і студыя «Око» будуць яго здымаць не раней за тэлесезон 2004-2005 гадоў. Аднак шырокая падрыхтоўка да здымак разгорнецца ўжо цяпер і будзе праходзіць па ўсіх законах медыябізнэсу. Атрымаецца нешта сярэдняе паміж расійскімі «Стань зоркай» і «Фабрыка зорак»: на ролі двух галоўных герояў фільма (хлопец з дзяўчынай) непрафесійных, але таленавітых акцёраў будуць шукаць сярод шырокіх колаў насельніцтва ў самых аддаленых кутках Беларусі. Паспрабаваць свае сілы ў вялікім кіно зможа любы ахвотны. Кожны этап адбору будуць трансляваць па тэлебачанні, а гледачы змогуць выказацца за таго ці іншага ўдзельніка.

Але гэта яшчэ не ўся народнасць у серыяле. Простыя людзі будуць пісаць і ягоны сцэнарый. Якім чынам? Па кавалках. Тэлегледачы могуць дасылаць на адрас студыі «Око» цікавыя жыццёвыя ці нават прыдуманыя гісторыі, якія, на іх погляд, заслугоўваюць экранізацыі.

У Агульнанацыянальнага тэлебачання ў новым сезоне таксама падрыхтаваныя па серыялу і тэлешоу. Камедыйны серыял «Гатэль здзяйснення жаданняў» мы зможам пабачыць ужо ў кастрычніку. Па словах рэжысёра тэленавелы Ірыны Васільевай, якая ўжо вядомая таксама па камедыйным серыяле «Ускораная дапамога», першая з дванаццаці серыяў ужо адзнята.

Адмыслова для гэтага серыялу пад Мінскам быў знойдзены незвычайны дом, якому належыць ганаровая роля гатэля. Ягоны гаспадар - бізнэсовец, але ў душы, як сцвярджае Ірына Васільева, сапраўдны мастак: плот вакол дома ён, напрыклад, зрабіў з камянюкаў, старога паравоза, ветрака, матацыкла, бутэлек і нават з адбойных малаткоў.

Асноўная, як кажуць, «фішка» канала ў сезоне - першае беларускае рэальнае тэле-шоу «Нашы ў Галандыі». У пачатку жніўня быў абвешчаны адбор удзельнікаў шоу, на які сабраліся 555 чалавек з розных куткоў Беларусі. І толькі восем з іх дабраліся да фіналу. Іхнія імёны арганізатары праекта пакуль не раскрываюць, бо пазнаёміцца адзін з адным яны могуць толькі перад самым ад'ездам у Галандыю. Вядома толькі, што маладзейшаму ў камандзе 19 год, а старэйшаму - 63 гады.

У хуткім часе іх закінуць у правінцыйны галандскі гарадок, дзе ім давядзецца прыкласці ўсе свае ўменні і кемлівасць, каб не памерці з голаду цягам 30 дзён. Па ўмовах праекту, ім забаронена браць з сабой грошы, крэдытныя карткі, прадаваць асабістыя рэчы і зарабляць грошы незаконным шляхам. З усёй каманды толькі два чалавекі ведаюць англійскую мову.

Яшчэ па ўмовах гульні ніхто з удзельнікаў не можа раней часу з'ехаць дахаты, яны мусяць пастаянна знаходзіцца перад камерамі, якія будуць фіксаваць кожны іхні крок цягам сутак, за выключэннем ночы. Арганізатары з усмешкай згадваюць, як нейкая дзяўчына, даведаўшыся на анкетаванні, што ўначы здымаць не будуць, забараніла свайму хлопцу ўдзельнічаць у гульні і тут жа парвала на шматкі ягоную анкету. А між тым штраф за парушэнне пералічаных умоваў зусім не жартоўны - каля 40 тысяч даляраў.

**Інга ГРЫМОНТАВА**

# Скарабагатаў рыхтуе прэм'еры

**У новым канцэртным сезоне ў рамках праекта чакаецца вялікая прэм'ера беларускай духоўнай музыкі 16 стагоддзя. Канцэрты адбудуцца ў рамках праекта «Адраджэнне беларускай капэлы», кіраўніком якога з'яўляецца вядомы оперны спявак Віктар Скарабагатаў.**

Па яго словах, беларускія музычныя творы гэтага перыяду цалкам адпавядаюць лепшым еўрапейскім узорам, у тым ліку творам Іагана-Себасцяна Баха. Зараз разам з музычным калектывам «Класік Авангард» вядзецца праца па расшыфроўцы старажытных партітураў. «Гэта вельмі складаная справа. Але мне як прафесіяналу ўжо зараз зразумела, што гэта музыка найвышэйшага ўзроўню. Больш таго, яна стваралася на беларускай зямлі, напісаная беларусамі, а выконвалася па ўсёй Усходняй Еўропе ад Любліна да Яраслаўля», - паведаў Віктар Скарабагатаў. Пра аўтараў гэтых твораў пакуль нічога не вядома, захаваліся толькі прозвішчы – А. Катовіч і Германоўскі.

Такой прэм'еры, па словах спевака, ужо даўно не было ў беларускай музычнай культуры. Яшчэ больш гэты факт уражвае тым, што менавіта гэтыя творы, у прыватнасці так званы «Велікодны цыкл», выконваюцца ўпершыню за 400 год.

Канцэрты плануецца правесці 4, 6, 11 і 9 снежня ў камернай зале беларускай філармоніі, а продаж квіткоў пачнецца ўжо ў лістападзе.

# Катэхізіс у інтэрнеце

На сайце, прысвечанам 450-годдзю Рэфармацыі ў Беларусі, размешчана першая частка «Катэхізіса» Сымона Буднага. Цалкам тэкст твора на старажытнабеларускай мове ў транскрыпцыі, а таксама ў перакладзе на сучасную беларускую і рускую мовы зараз рыхтуецца да выдання. Плануецца, што ён пабачыць свет ужо ў лістападзе гэтага года.

Да нядаўняга часу вельмі абмежаванае кола навукоўцаў маглі пазнаёміцца з гэтым творам, бо Нацыянальная бібліятэка Беларусі мела толькі мікрафільм гэтай кнігі. Намаганнямі творчага калектыву пад кіраўніцтвам кандыдата філалагічных навук Наталлі Кабелкі была зроблена больш зручная для працы копія «Катэхізіса», а таксама пераклады.

Да 31 кастрычніка плануецца размясціць у інтэрнэце тэкст «Катэхізіса» цалкам.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

## *Нататкі да гісторыі сучаснай беларускай тэатральнай рэжысуры (1985 – 2003 гады)*

сталіся выбітнейшымі з'явамі культурнага жыцця краіны.

Выveўшы «з ценю лялькі» артыста, Ляляўскі, безумоўна, нагрузіў і яго працай, прымусіўшы ствараць аб'ёмныя псіхалагічныя вобразы. Самым яркім узорам рэалізацыі гэтага метаду «паўнацэнных» акцёрскіх работ як у лялек, так і ў артыстаў стаў легендарны спектакль «Сымон-музыка» паводле паэмы Я.Коласа. Вобразнасць і метафарычнасць у гэтай працы сыходзяць ад універсальных рэчаў: каменняў, жывой музыкі і гукаў, дый пранікнёнай шчырасці самога «паэта сцэны», які ішоў не ад прынцыпу «неабходнасці выканання сацыяльнага заказу на нацыянальную драму», а ад самой глыбіні твора – тых вечных праблемаў дабра і зла, якія будуць хваляваць чалавецтва вечна.

### «Вольная сцэна»

Творчая манера А.Гарцуева носіць вельмі разнаіты характар, але ўсё ж лепшымі яго спектаклямі сталі «эксперыменты з суайчыннікамі» – ультра-авангардны «вячэрні кактэйль» «Крывавая Мэры» Дз.Байке, гістарычна-любоўная меладрама «Авантуры майго жыцця» і «Трышчан ды Ізольда» С.Кавалёва, «Інтымны дзённік Еўсігнея Міровіча» паводле нататкаў слыннага майстра, псіхалагічны дэтэктыў «Кім» А.Дударава на сцэне Купалаўскага тэатра, а таксама першыя пастаноўкі на «Вольнай сцэне» - «Нагавіцы святога Георгія» і «Чорны квадрат» М.Клімковіча і М.Адамчыка. Усе гэтыя спектаклі з'яўляюцца здаровым спалучэннем акадэмічных традыцыяў рэалістычнага тэатра і неастылістычных вырашэнняў. Смела асвойваючы сучасны драматычны матэрыял, рэжысёру ніколі не бракуе густу і пры наяўнасці момантаў незаўсёды «дасканалага выканання партытуры» драматургам.

Але галоўным «прыбежышчам» нацыянальнай п'есы стаўся зарганізаваны ўжо класікам рэжысуры і тэатра В.Мазынскім у сярэдзіне 90-х гадоў тэатр-лабараторыя беларускай драматургіі «Вольная сцэна» ў Мінску, дзе знайшлі рэалізацыю не толькі творы беларускіх пісьменнікаў, але і здольнасці шэрагу таленавітых рэжысёраў.

Самымі яркімі пастаноўкамі Валерыя Мазынскага гэтага перыяду сталі «Барбара Радзівіл» Р.Баравіковай, «Прынц Мамабук» А.Дударава, «Паваліўся нехта» Л.Радзевіча і нашумелы, але неадназначна ўспрыняты ўладамі «Узлёт кар'еры Артура VI» паводле Б.Брэхта, якая мела ў грамадстве эфект «ядзернай бомбы» і за што прынцыповы рэжысёр пацярпеў у пазнейшы час...

У 2000 годзе рэжысёр цалкам сыходзіць з структураў Дзяржаўнага тэатра, і ягоны праект «Вольная сцэна» мае прыватны характар.

Разам з назовам і статутам тэатр беларускай драматургіі змяняе свайго кіраўніка. На «святое месца», якое адмовіліся займаць усе калегі Мазынскага, згадзіўся прыйсці Валерый Анісенка, які ўжо быў вядомы, як рэжысёр тэатра, радыё і філарманічных праектаў. Лепшымі працамі рэжысёра застаюцца ранейшыя пастаноўкі паводле п'есаў В.Шэкспіра, вызначаны стылістычна смелымі вырашэннямі, але й не пазбытымі некаторага акадэмізму: «Рычард», «Макбет» на «Вольнай сцэне» і «Гамлет» на Купалаўскай. Менавіта, у шэкспіраўскай канцэптуальнай філасофска-паэтычнай заглыбленасці і варта шукаць корні рэжысёрскага метаду Анісенкі. Зрэшты, і сама публіка неадназначна ўспрымала гэтыя спектаклі. Калі «Рычард» і «Макбет» прайшлі на «ўра!», то «Гамлет» – праваліўся. Справа, на маю думку, у тым, што, у адрозненне ад папярэдніх работ, у апошняй шэкспіраўскай пастаноўцы рэжысёр проста не знайшоў канкрэтнага канцэптуальнага ходу і не вызначыўся ў канкрэтыцы ідэі спектакля.

### Маладзёжны тэатр

Разважаючы аб тэатральным працэсе 1985-2003 гадоў, немагчыма абмінуць увагай і яшчэ адно яркае імя, звязанае з узнікненнем і развіццём Маладзёжнага тэатра, які, як і ўзгаданыя «ДзеЯ», «Вольная сцэна», Альтэрнатыўны дый многія іншыя новыя тэатры, паўстаў з недзяржаўнай тэатральнай студыі. Лідэрам гэтай студыі стаў малады і таленавіты акцёр і рэжысёр Віталій Катавіцкі, які з выдатнай акцёрскай камандай, на сёння зоркамі Беларускага тэатра, заняўся канцэптуальнымі эксперыментамі, якія мусілі прывесці да «тэатра з еўрапейскім кантэкстам постмадэрністкага ўзору». Сцвярджаючы падобную стылістыку, рэжысёр упершарадзь звяртаўся да вопыту заходняй драматургіі і літаратуры. Такія яго працы, як «Яго сны» паводле дзённікаў Сальвадора Далі, «За зачыненымі дзвярыма» па Ж.Сартру, «Пігмаліён» Б.Шоу, мелі яркавыражаную інтэлектуальную аснову, выключную стылістычную густоўнасць, простасць, але элегантнасць рэжысёрскіх вырашэнняў ды шырокі грамадскі рэзананс, асабліва ў асяроддзі моладзі.

Ужо першая вядомая пастаноўка В.Катавіцкага «Яго сны» зрабіла рэжысёра асобай, як кажуць, культавай і прымусіла разважаць крытыку «аб новым ідале маладога пакалення інтэлектуальных беларусаў».

Але, на жаль, сур'ёзныя творчыя канфлікты ў самім тэатры, які на той момант дужа пасталеў, увялі Катавіцкага ў паласу зацягненай творчай дэпрэсіі і хаатычнага пошуку новых эстэтычных вырашэнняў, не заўсёды, зноў жа - на жаль, удалых...

Сапраўды, пост-мадэрнізм сышоў разам з модай, а тэатр застаўся і прагнуў новага этапу сталення. Сур'ёзнымі ўдачамі рэжысёра канца 90-х можна лічыць пастаноўкі «Прыйшоў мужчына да жанчыны» па Зорыну і «Прымакі» Я.Купалы, «Дзядзя Ваня» Чэхава – спектаклі, вытрыманыя зусім у розных стылістычных манерах, але маючыя агульнае канцэптуальнае зерне. Тэма адзіноты і пакінутасці асобы ў халодным і несправядлівым свеце з'яўляецца для гэтых спектакляў істотна галоўнай.

Новыя творчыя пошукі вядуць В.Катавіцкага ў педагогіку, дзе на студэнцкай тэатральнай сцэне з'яўляецца ультраэкстрэмальнае відовішча «Пікнік» паводле п'есы Арабаля. Зрэшты, педагагічная дзейнасць з'яўляецца прывілеяй многіх вышэйзгаданых майстроў.

# Забытыя жаўнеры

## *Ураджэнцы Беларусі, якія загінулі і памерлі падчас службы ў Польскіх узброеных сілах (1939–1946)*

Юры ГРЫБОЎСКІ

> У папярэднім нумары газеты была надрукавана інфармацыя пра выхад у свет кнігі «Забытыя жаўнеры Польскага войска ў часы Другой сусветнай вайны». Яе аўтары гісторыкі Юры Грыбоўскі і Кузьма Казак. У даследаванні побач з артыкуламі, запісамі ўспамінаў і дакументамі падаюцца спісы беларусаў, якія служылі і загінулі ў часе баявых дзеянняў у польскіх вайсковых аддзелах. У нас тэма «беларусы ў польскім войску» амаль не даследавалася, і выдадзеная кніга запаўняе пэўныя лакуны нашай гістарычнай памяці. Аднак малы наклад - 300 асобнікаў – робіць яе маладаступнай нават для навукоўцаў, а для краязнаўцаў і шырокага чытача магчымасць пазнаёміцца з выданнем яшчэ меншая. Гэтая публікацыя мае на мэце паспрыяць знаёмству з важным гістарычным матэрыялам.

Дадзены спіс атрыманы ў выніку апрацавання польскамоўных вайскова-гістарычных крыніцаў, якія былі апублікаваны ў Вялікабрытаніі і Польшчы. У гэты спіс уключаны ўраджэнцы Беларусі, якія загінулі ці памерлі ў складзе польскіх узброеных сілаў, якія фарміраваліся і знаходзіліся ў падпарадкаванні польскага эмігранцкага ўраду ў гады Другой сусветнай вайны. Лік беларусаў, якія палеглі ў складзе Войска Польскага ў часе верасնёвай кампаніі 1939г., праз адсутнасць архіўных крыніц падлічыць немагчыма. Пераважная большасць асоб з ніжэйпададзенага спісу пакінулі сваю Бацькаўшчыну яшчэ ў 1939-1949 г. З гэтага моманту і дасюль родныя і сваякі на радзіме не ведалі іх далейшага лёсу, паколькі польскія вайсковыя сілы, пра якіх ідзе гаворка, на працягу ўсяго перыяду Другой сусветнай вайны дзейнічалі далёка па-за межамі Беларусі, а іх вайскоўцы не мелі практычнай магчымасці падтрымліваць сувязь са сваімі сем'ямі. Беручы пад увагу гэту акалічнасць, падчас складання дадзенага спісу, аўтары ў якасці асноўнай мэты ставяць вяртанне з нябыту імёнаў вайскоўцаў, якія аддалі сваё жыццё ў няведанні і далёка па-за межамі радзімы. На працягу ўсяго паваеннага перыяду на Беларусі, якая ў гады вайны страціла штовачвёртага свайго жыхара, іх імёны не ўзгадваліся і былі невядомымі. Менавіта таму аўтары шчыра спадзяюцца, што беларускія чытачы сярод палеглых «забытых герояў Монтэ-Касіна і Арнэма» адшукаюць сваіх родных і сваякоў.

Агульныя беззваротныя страты асабовага складу польскіх узброеных сілаў, якія вядомы на дадзены момант па прозвішчах і месцах пахавання, склалі 15.056 чалавек. З улікам таго, што пэўны час польскія войскі кватараваліся ў месцах з жорсткімі і неспрыяльнымі кліматычнымі ўмовамі - на тэрыторыі Сярэдняй Азіі, Сярэдняга і Блізкага Усходу, Паўночнай Афрыкі, значная частка страт прыпадае на небаявыя (памерлі ад хвароб, загінулі ў выніку няшчасных выпадкаў і інш.). У прыватнасці, ад хвароб памерла 52% ад агульнай колькасці нябожчыкаў, 6% - у выніку няшчасных выпадкаў і 33% - баявыя страты падчас непасрэднага ўдзелу ў ваенных дзеяннях на заходніх франтах Другой сусветнай вайны. Прыкладна такія ж суадносіны сярод ніжэй пададзеных ураджэнцаў Беларусі.

Палеглыя сярод вайскоўцаў сухаземных сілаў згрупаваны ў залежнасці ад перыяду і тэматыкі. Так, напрыклад, асобныя групы ўтвараюць: Польская армія ў Францыі (1939-1949 гг.), якая па сутнасці знаходзілася ў аператыўным падпарадкаванні французскага войска; Польская армія ген. У.Андэрса (1941-1942 г.), якая фармавалася на тэрыторыі СССР і сфармаваны на яе падмурку 2-гі Польскі корпус, вайскоўцы якога ўдзельнічалі ў баях па вызваленні Італіі. Тым часам, часці 1-га Польскага корпуса, якія ў перыяд вайны кватараваліся на тэрыторыі Вялікабрытаніі, падзелены на асобныя вайсковыя адзінкі, паколькі яны бралі ўдзел у баявых дзеяннях (Францыя, Германія, Галандыя, Бельгія) не як адзіная тактычная адзінка. Найбольш беларусаў загінула ў 2-м Польскім корпусе падчас баявой дзейнасці гэтай адзінкі на Італьянскім фронце (1944-1945).

Звесткі, якія ўключаны ў дадзены спіс, складаюцца з прозвішча і імя вайскоўца, часу і месца нараджэння (населены пункт і павет), вайсковай годнасці на момант смерці, часу гібелі і месца пахавання. Месцы нараджэння вайскоўцаў пададзены згодна з міжваенным тэрытарыяльна-адміністрацыйным падзелам у Польшчы. У сувязі з гэтым звяртаем увагу чытача на той момант, што межы тагачасных паветаў нярэдка не супадаюць з сучаснымі межамі адпаведных раёнаў. Акрамя таго, аўтары не нясуць адказнасць наконт дакладнасці падання назваў мясцовасці нараджэння (вёска, мястэчка), паколькі яны ўзяты з міжваенных польскіх вайсковых крыніц, якія па моўных прычынах могуць не цалкам адпавядаць сучасным назвам той ці іншай мясцовасці. Акрамя таго, зараз шэраг дробных населеных кропак (хутары, засценкі, фальваркі) могуць ужо не існаваць. Месца смерці ў шэрагу выпадкаў пададзены ў ангельскай альбо французскай мовах, каб пазбегнуць дадатковых недакладнасцяў у назвах мясцовасцяў.

Дадзены пералік польскіх вайскоўцаў, якія паходзілі з Беларусі, з'яўляецца няпоўным. Рэч у тым, што аўтары свядома не падалі прозвішчы 262 вайскоўцаў, якія нарадзіліся на тэрыторыі Беласточчыны (паветы: Аўгустоў, Бельск-Падляскі, Беласток, Саколка і інш.), якая зараз знаходзіцца ў складзе Польшчы, а таксама 254 загінуўшыя жаўнеры з ліку ўраджэнцаў часткі Віленшчыны (паветы: Вільня, Свянцяны), якія апынуліся ў Літве. Сярод вышэйзгаданых катэгорый сустракаецца значны % вайскоўцаў з беларускімі прозвішчамі, але адносна шэрагу з іх прысутнічае пэўны сумніў падчас вызначэння беларускага альбо польскага паходжання. Тым часам, у спіс увайшлі беларусы, якія нарадзіліся на тэрыторыі Расіі, паколькі іх бацькі былі бежанцамі Першай сусветнай вайны і з пачаткам ваенных дзеянняў на Беларусі былі вымушаны пераехаць на ўсход.

У ніжэйпададзены спіс увайшлі палеглыя вайскоўцы ад моманту стварэння Польскай арміі на тэрыторыі Францыі ў 1939 г. да 8 верасня 1946 г., калі афіцыйна пачалося перафармаванне Польскіх узброеных сілаў на захадзе ў Польскі корпус прыстасавання і размяшчэння (ПКПР) у складзе брытанскага войска.

## Ваенна-паветраныя сілы (1939–1945)

| | | | |
|---|---|---|---|
| Алькевіч Франц | 12.12.1920 Скрабаўчы (Шчучын) | Звязовы | 6.1.1944, Англія |
| Альшына Мар'ян | 12.5.1916 Масква | Падпаручнік (Пілот) | 1.1.1941, Англія |
| Астрамовіч Сцяпан | 3.6.1920 Вял.Слабада (Стаўбцы) | Ст.сяржант | 29.9.1941, Англія |
| Бай Уладзімір | 19.10.1913 Цвер | Капрал | 5.2.1943, Англія |
| Бецька Станіслаў | 4.11.1915 Ляхавічы (Баранавічы) | Паручнік (Пілот) | 6.9.1941, Англія |
| Белабярэзскі Казімір | 21.1.1923 Гродна | Ст.стралец | 25.5.1943, Англія |
| Бакун Вацлаў | 6.11.1919Гродна | Падпаручнік (Пілот) | 12.6.1944, Галандыя |
| Блючынскі Віталь | 20.8.1940 Брэст | Ст.стралец | 15.4.1942,Англія |
| Багушэвіч Віталь | 25.3.1914 Ашмяны | Паручнік (Пілот) | 5.1.1944, Італія |
| Баклажац Мікалай | 23.12.1918 Гомель | Звязовы | 29.11. 1942, Англія |
| Бандарчук Аркадзь | 20.1.1917 Ваўкавыск | Звязовы | 27.9.1943, ? |
| Беразоўскі Іосіф | 2.11.1912 Беласток | Капрал | 25.4.1944, Англія |
| Беразоўскі Міхаіл | 26.12.1920 Давыд-гарадок | Сяржант | 15.9.1940, Англія |
| Буцька Юльян | 21.2.1909 Нясвіж | Ст.стралец | 6.1. 1944, Англія |
| Бурак Антон | 23.2.1917 Івянец | Капрал | 14.7. 1942, Англія |
| Быстрынскі Віталь | 18.10.1917 Віцебск | Харужы | Англія |
| Відшэўскі Мечыслаў | 17.4.1920 Брэст | Падпаручнік (Пілот) | 29.12. 1942, Англія |
| Вашкевіч Станіслаў | 26.5.1909 Іванава | Капітан (пілот) | 11.9. 1942, Англія |
| Гагусь Рамуальд | 16.2.1919 Дзьвінск | Харужы | 2.10. 1941, Англія |
| Гольд Вацлаў | 31.1.1924 Гродна | Звязовы | 9.10.1945 ? |
| Горскі Іосіф | 13.12.1921 Брэст | Капітан | 7.7.1943, Англія |
| Грывач Фелікс | 17.11.1914 Навагрудак | Звязовы | 26.6.1943 ? |
| Гайдук Іосіф | 29.4.1922 Новыя Свенцяны | Звязовы (Пілот) | 21.1.1945, Галандыя |
| Грынявіцкі Станіслаў | 9.11.1912 Аранбург | Звязовы | 13.7. 1944, Англія |
| Данілюк Іван | 21.9.1913 Альбертын (Слонім) | Ст.сяржант | 26.7. 1944, Англія |
| Данік Іван | 12.11.1912 Лунінец | Звязовы | 6.6.1942 Галандыя |
| Жалейка Уладзіслаў | 12.9.1914 Петраград | Звязовы | 12.4. 1942, Галандыя |
| Жук Вацлаў | ? Брэст | Капрал | 30.10. 1941, Галандыя |
| Зірквіц Аляксандр | 30.1.1899 Брэст | Паручнік | 12.6. 1941, Англія |
| Ёда Антон | 21.7.1915 Навагрудак | Звязовы | 10.1. 1941, Англія |
| Казак Іван | 28.5.1910 Лунінец | Паручнік (Пілот) | 5.6.1942 ? |
| Кароль Сяргей | 30.9.1919 Екацярынаслаў | Капрал | 1.8. 1944, Англія |
| Казёл Уладзіслаў | 10.4.1914 Самайловічы (Пружаны) | Падпаручнік (Пілот) | 28.8.1944 ? |
| Казлоўскі Мечыслаў | 24.10.1910 Маладэчна | Звязовы | 11.11. 1944, Англія |
| Крукоўскі Леанід | 3.11.1918 Ваўкавыск | Ст.сяржант | 30.11.1942, Англія |
| Кубяк Тэафіл | 27.4.1916 Віцебск | Ст.сяржант | 7.3.1942 ? |
| Кулік Мікалай | ? Маладэчна | Капрал | 9.12. 1941, Англія |
| Кузміцкі Мечыслаў | 15.9.1904 Гомель | Капітан | 6.1.1944, Італія |
| Ляхавіцкі Лех | 11.1.1915 Варапева (Паставы) | Падпаручнік (Пілот) | 9.6.1940, Францыя |
| Ляшковіч Антон | 10.6.1923 Даўгінава (Вілейка) | Капрал | 23.5. 1944, Англія |
| Лявіцкі Напалеон | 2.2.1913 Іса (Слонім) | Паручнік | 12.4.1943, Францыя |
| Леванеў Збігнеў | 14.10.1919 Гродна | Звязовы | 25.6. 1941, Англія |
| Ліпінскі Мацей | 15.6.1916 Петраград | Паручнік (пілот) | 4.5.1943, Галандыя |
| Лашкоўскі Іван | 9.7.1917 Брэст | Ст.Стралец | 13.1.1943, Англія |
| Лось Станіслаў | 3.7.1917 Петраград | Звязовы | 26.10.1943 ? |
| Лукашэвіч Станіслаў | 30.5.1915 Беласток | Паручнік (Пілот) | 4.4.1943, Францыя |
| Марчук Уладзімір | 16.2.1917 Петраград | Капрал | 9.8. 1943, Англія |
| Мікалайчык Антон | 24.6.1923 Гродна | Звязовы | 27.7. 1945, Англія |
| Міронаў Іван | 7.6.1914 Граева (Шчучын) | Звязовы | 18.4.1943 ? |
| Міроньчык Людвік | 25.3.1918 Маларыта | ? | 27.10.1941 ? |
| Масевіч Вацлаў | 30.8.1897 Гомель | Капітан (Пілот) | 15.1. 1942, Англія |
| Муха Генрык | 24.1.1913 Мір | Звязовы | 18.7.1943, Англія |
| Панасюк Вацлаў | 3.10.1914 Зэльва | Звязовы | 9.8.1943, Англія |
| Палівода Кароль | 22.8.1919 Паставы | Сержант | 25.9.1940, Англія |
| Папкоў Анатоль | 25.12.1918 Браслаў | Капрал | 13.3.1943 ? |
| Пенскі Уладзімір | 1.3.1912 Петраград | Капітан | 12.5. 1944, Англія |
| Пятроў Юры | 1.8.1914 Дзісна | Ст.стралец | 27.3.1942 ? |
| Пятроўскі Мікалай | 6.5.1916 Бабруйск | Капрал | 16.1.1945, Германія |
| Пісарук Станіслаў | 8.3.1915 Гродна | Капрал | 31.10.1942 ? |
| Пастак Тадэвуш | 27.6.1926 Баранавічы | Ст.стралец | 7.10.1944, Францыя |
| Пружына Станіслаў | 11.11.1917 Петраград | Паручнік (Пілот) | 3.4. 1942, Англія |
| Расінюк Уладзіслаў | 11.4.1910 Старая Вёска (Брэст) | Паручнік (Пілот) | 2.9.1944, Югаславія |
| Разга Сцяпан | 14.5.1915 Вілейка | Капрал | 27.8.1946, Англія |
| Рымкевіч Часлаў | 3.8.1911 Глыбокае | Паручнік (Пілот) | 14.3. 1942, Англія |
| Сапко Баляслаў | 22.2.1916 Ліда | Капрал | 6.12. 1942, Францыя |
| Самец Кароль | 2.10.1920 Масты | Капрал (Пілот) | 4.11. 1941, Англія |
| Скеркоўскі Тадэвуш | 4.11.1917 Шчучын | Паручнік (Пілот) | 15.10.1942, Лівія |
| Скарабагаты Ігнацый | 1.1.1898 Нясвіж | Маёр (Пілот) | 1.11.1942 ? |
| Скраба Іосіф | 4.7.1912 Гродна | Паручнік (Пілот) | 13.2. 1942, Англія |
| Смолік Сігізмунд | 24.2.1917 Валожын | Падпаручнік (Пілот) | 27.10.1941, Англія |
| Сарока Канстанцін | 27.5.1916 Крэва | Звязовы | 23.1.1942 ? |
| Станевіч Кандрат | 23.11.1922 Навагрудак | Капрал | 2.9.1944, Югаславія |
| Струнеўскі Павел | 24.2.1918 Целеханы | Звязовы | 15.2. 1941, Англія |
| Тэадорка Іван | 17.1.1920 Смаргонь | Шэраговец | 27.101941, Англія |
| Ткачук Матэвуш | 21.8.1915 Пінск | Ст.стралец | 2.8. 1942, Англія |
| Тваркоўскі Здзіслаў | 1.5.1918 Гомель | Звязовы (Пілот) | 23.6.1942 ? |
| Тамашэўскі Ігнацый | 1.2.1920 Рагачоў | Капрал | 19.7. 1944, Англія |
| Урбановіч Уладзіслаў | 26.7.1917 Полацк | Сяржант | 3.7.1941 Германія |
| Ферanц Сцяпан | 24.4.1916 Бабруйск | Капрал | 28.4. 1942, Англія |
| Франашчук Станіслаў | 2.6.1917 Мінск | Сяржант | 19.6. 1941, Англія |
| Фядорчык Яўген | 28.10.1918 Чыта | Паручнік (Пілот) | 15.8. 1942, Англія |
| Храноўскі Густаў | 28.3.1917 Казіміраўка (Шчучын) | Ст.стралец | 15.6.1942, Францыя |
| Цацка Казімір | 16.2.1916 Гомель | Капрал | 26.6. 1941, Англія |
| Чапскі Сігізмунд | 18.9.1919 Брэст | Капрал | 3.7.1942 ? |
| Чыжык Генрык | 15.2.1917 Гомель | Звязовы | 26.7. 1944, Англія |
| Шыманскі Эдуард | 20.10.1919 Гібулічы (Гродна) | Капрал | 2.3.1945, Галандыя |
| Шыманоўскі У. | 12.6.1909 Прашкода (Шчучын) | Паручнік | 22.7.1942, Паўн.мора |
| Эрат Тадэвуш | 19.11.1921 Брэст | Капрал | 27.9. 1943, Англія |
| Юрэвіч Генрых | ? Будзішкі (Ашмяны) | Падпаручнік (Пілот) | 22.9.1943, Францыя |
| Яхімовіч Уладзімір | 27.6.1915 Брэст | Падпаручнік (Пілот) | 26.7.1941, Германія |
| Янчэўскі Ляпольд | 29.9.1918 Дзісна | Капрал | 10.11. 1944, Англія |
| Янкевіч Іосіф | 19.3.1916 Мінск | Капрал | 27.6.1945, Германія |
| Янушкевіч Вацлаў | 6.9.1915 Смаргонь | Харужы (Пілот) | 25.6.1941, Англія |
| Янушэвіч Войцэх | 30.4.1911 Слонім | Капітан (Пілот) | 5.10. 1940, Англія |

## Ваенна-марскія сілы (1939–1945 г.)

| | | | |
|---|---|---|---|
| Бараноўскі Станіслаў | 10.3.1921 Масква | Матрос | 8.10.1943, «Аркан» |
| Бегель Тэадор | 23.2.1923 Драгічын | Матрос | 8.10.1943, «Аркан» |
| Байба Казімір | 15.5.1922 Гарадзішча (Пінск) | Матрос | 8.10.1943, «Аркан» |
| Болбат Іван | 8.3.1918 Баяры (Ваўкавыск) | Матрос | 8.10.1943, «Аркан» |
| Багдановіч Уладзіслаў | 23.9.1910 Віцебск | Матрос | 8.10.1943, «Аркан» |
| Гарбачэўскі Веньямін | 13.10.1915 Маладэчна | Ст. матрос | 8.10.1943, «Аркан» |
| Гардонін Эдуард | 25.11.1924 Ятвеск (Ваўкавыск) | Матрос | 1.7.1944 «Драгун» |
| Карашэвіч Адольф | 23.7.1919 Даўкшчышкі (Ашмяны) | ? | 8.10.1943, «Аркан» |
| Катлубай Казімір | 6.4.1915 Брындзоўка (Баранавічы) | Матрос | 8.10.1943, «Аркан» |
| Казейка Мікалай | 2.8.1921 Клешчы (Іванаў) | Ст.матрос | 1.8.1945, Данія |
| Кучынскі Уладзіслаў | 29.4.1924 Рыхавічы (Лунінец) | Матрос | 8.10.1943, «Аркан» |
| Мальчынскі Іосіф | 10.4.1921 Брэст | Ст. матрос | 25.8.1945, Англія |
| Мазура Філіп | 12.9.1914 Мал.Дубаўка (Навагрудак) | Матрос | 11.11.1942, Англія |
| Мікановіч Іван | 11.11.1929 Азёры (Гродна) | Матрос | 8.10.1943, «Аркан» |
| Ніцееўскі Аляксандр | 31.1.1918 Мінск | Матрос | 8.10.1943, «Аркан» |
| Печык Мечыслаў | 1.1.1915 Масква | Матрос | 27.5.1942, «Garland» |
| Рапейка Эдуард | 25.10.1912 Гродна | Матрос | 8.10.1943, «Аркан» |
| Рэўт Мечыслаў | 24.4.1891 Барань (Орша) | Камандор-п/паручнік | 5.9.1945, Англія |
| Сарока Іван | 17.6.1918 Татары (Маладэчна) | Матрос | 8.10.1943, «Аркан» |
| Станкевіч Раман | 16.2.1898 Якубава (Дзісна) | Камандор-п/паручнік | 26.11.1940, Англія |
| Сліжэўскі Уладзіслаў | 12.4.1925 Давыд-Гарадок (Столін) | Ст.матрос | 22.4.1946, Англія |
| Троцкі Антон | 26.9.1919 Пусяворы (Ліда) | Ст.матрос | 8.10.1943, «Аркан» |
| Хлус Мікалай | 9.11.1929 Рыдавічы (Пінск) | Ст.матрос | 8.10.1943, «Аркан» |
| Церабей Іван | 22.6.1919 Запурне (Гродна) | Матрос | 8.10.1943, «Аркан» |
| Часноўскі Алаіз | 12.9.1893 Полацк | Камандор-п/пар.інж. | 3.8.1943, Англія |
| Шчапанскі Іван | 13.11.1924 Зянонава (Вілейка) | Матрос | 8.10.1943, «Аркан» |
| Юркоўскі Юрый | 7.10.1904 Брэст | Боцман | 4.5.1940, «Гром» |
| Янкоўскі Вацлаў | 30.4.1907 Бранск | Капітан | 22.1.1944, Англія |
| Якель Браніслаў | 20.5.1922 Халаўнічы (Баранавічы) | Матрос | 8.10.1943, «Аркан» |

## Польская армія ў Францыі (X.1939–VI.1940)

| | | | |
|---|---|---|---|
| Ванькові Іван | 28.10.1895 Бабруйск | Падпалкоўнік | 18.6.1940, Thouars |
| Лейша Баляслаў | 10.4.1894 Разэта (Браслаў) | Маёр | 18.6.1940, Thouars |

## Асобная брыгада карпацкіх стральцоў (1941–1942 г.)

| | | | |
|---|---|---|---|
| Панятоўскі Мечыслаў | 10.9.1894 Міхалаўка (Ваўкавыск) | Звязовы | 4.2.1941 Рамлех (Палест) |
| Пятрэвіч Часлаў | 15.5.1911 Крынікі (Гродна) | Капітан | 31.8.1941 Тобрук (Лівія) |

## 1-я асобная парашутная брыгада (1942–1946)

| | | | |
|---|---|---|---|
| Адынькевіч Антон | 26.12.1923 Смаргоні (Ашмяны) | Шэраговец | 8.7.1944, Англія |
| Альшэўскі Станіслаў | 2.12.1914 Вял.Пятроўка (Шчучын) | Стралец | 25.9.1944 Арнэм (Галан.) |
| Барсукевіч Сцяпан | 28.4.1918 Аляксандраўск (Расія) | Падпаручнік | 21.8.1942, Англія |
| Жукоўскі Вацлаў | 23.6.1912 Вяліконічы (Ліда) | Бамбардзір | 22.10.1945, Германія |
| Захарчонак Уладзімір | 23.3.1911 Волацкава (Дзісна) | Ст.стралец | 15.6.1946, Германія |
| Кучэўскі Уладзіслаў | 1.7.1924 Карчоўка (Ваўкавыск) | Ст.стралец | 26.9.1944 Арнэм (Галан.) |
| Куліkoўскі Іван | 15.6.1922 Вяла (Валожын) | Ст.стралец | 29.9.1944, Галандыя |
| Лешчык Баляслаў | 10.3.1924 Стары двор (Паставы) | Ст.стралец | 4.12.1943, Англія |
| Лукашэвіч Франц | 2.6.1929, Лагічын (Пінск) | Шэраговец | 3.10.1943, Галандыя |
| Новак Мар'ян | 21.8.1925 Савіч (Баранавічы) | Ст.стралец | 26.9.1944 Арнэм (Галан.) |
| Новак Мар'ян | 21.8.1925 Чарнігаў (Баранавічы) | Шэраговец | 26.9.1944 Арнэм (Галан.) |
| Мядзьведскі Мікалай | 1.5.1919 Гродна | Шэраговец | 25.9.1944, Галандыя |
| Мамончык Аляксандр | 9.12.1917 Мал.Зухавічы (Стаўбцы) | Шэраговец | 22.7.1944, Англія |
| Паульскі Баляслаў | 2.9.1919 Тушына (Дзісна) | Стралец | 2.12.1944, Галандыя |
| Скачко Іосіф | 25.12.1905 Верх.Гарадзея (Нясвіж) | Бамбардзір | 25.9.1944 Арнэм (Галан.) |
| Скерс Уладзіслаў | 19.12.1919 Вял.Вёска (Шчучын) | Шэраговец | 21.9.1944, Галандыя |
| Сямашка Яўген | 6.4.1924 Пружаны | Шэраговец | 5.12.1942, Англія |
| Сакольскі Яўген | 24.11.1923 Талудзь (Вілейка) | Ст.стралец | 8.7.1944, Англія |
| Шкунцік Віктар | ? 11.1919 Каралёва (Дзісна) | Шэраговец | 18.10.1944, Англія |
| Яблонскі Пётр | 18.1.1919 Радзьлаў (Шчучын) | Ст.стралец | 21.9.1944, Галандыя |
| Яворскі Станіслаў | 15.7.1919 Відзіборж (Столін) | Мал.сержант | 8.7.1944, Англія |

## Камандаванне і аддзелы ў Вялікабрытаніі

| | | | |
|---|---|---|---|
| Амбражэвіч Аляксей | 12.3.1914 Лашча (Гродна) | Шэраговец | 17.6.1945 Пэрч (Шатландыя) |
| Анёлчык Іосіф | 10.9.1916 Будслаў (Вільня) | Падхаружы | 7.6.1941 Пэрч (Шатландыя) |
| Багданёнак Аляксандр | ? 8.1920 Карачы (Маладэчна) | Стралец | 21.4.1943 Эдынбург (Шатлан) |
| Белапятровіч Вацлаў | 10.5.1919 Мацінічы (Ліда) | Стралец | 2.8.1944 Эдынбург (Шатлан) |
| Быкавіч Іосіф | 7.1.1897 Стральцы (Гродна) | Ст.улан | 22.11.1944 Пэрч (Шатландыя) |
| Воўк Антон | 1.5.1918 Шытаўшчына (Гродна) | Стралец | 19.5.1946 Пэрч (Шатландыя) |
| Вяжбоўскі Здзіслаў | 19.6.1912 Грабоўка (Ваўкавыск) | Падпаручнік | 28.8.1941 Алювік (Англія) |
| Грыга Пётр | 31.12.1919 Райград (Шчучын) | Падпаручнік | 3.7.1944 Пэрч (Шатландыя) |
| Дубавік Іосіф | 23.3.1913 Ракчыцы (Вілейка) | Стралец | 30.6.43, Нэтлэй? Вялікабрытанія |
| Зянкевіч Пётр | 3.12.1893 Пецярбург | Капітан | 6.6.46 Whitchurch Вялікабрытанія |
| Камінскі Тадэвуш | 2.4.1924 Карлавічы (Драгічын) | ? | 12.5.44 знік без звестак |
| Канопка Марцін | 5.10.1924 Альбярцін (Слонім) | Стралец | .9.1945 Пэрч (Шатландыя) |
| Кухарчык Іосіф | 2.8.1922 Баранавічы | Ст.стралец | 19.6.45 Кэмбрыдж |
| Парахімовіч Франц | 27.11.1906 Івянец (Стаўпцы) | Звязовы | 07.1944 знік без вестак |
| Петрашкевіч Хведар | 11.5.1988 Воранава (Дзісна) | Шэраговец | 28.5.43 Southampton (Вялікабрытанія) |
| Прэдкель Іосіф | 9.8.1907 Рудня (Дзісна) | Шэраговец | 8.5.1946 Пэрч (Шатландыя) |
| Раманоўскі Пётр | 25.11.1918 Дзяркоўшчына (Дзісна) | Стралец | 7.7.1943 Манчэстар (Англія) |
| Цімаховіч Іосіф | 25.9.1910 Баяршчына (Валожын) | Стралец | 15.2. 1946 Пэрч (Шатландыя) |

## 1-я панцэрная дывізія (1943–1946 г.)

| | | | |
|---|---|---|---|
| Алехвер Юры | 1.7.1923 Аліхверы (Паставы) | Стралец | 9.8.44 Langannerie (Францыя) |
| Аляшкевіч Васіль | 15.2.1923 Асташын (Нясвіж) | Ст.стралец | 11.8.44 Langannerie (Францыя) |
| Ашмянскі Пётр | 29.6.1918 Дубровы (Маладэчна) | Ст.стралец | 7.9.1944 Ломель (Бельгія) |
| Байдак Браніслаў | 11.4.1909 Дайліды (Ашмяны) | Стралец | 26.8.1945 Пэрч (Шатландыя) |
| Блаховіч Здзіслаў | 25.9.1925 Жыровічы (Слонім) | Капрал | 7.1.1945 Брэда (Галандыя) |
| Баркоўскі Іосіф | 21.7.1907 Косаўка (Шчучын) | Стралец | 1.11.1944 Брэда (Галандыя) |
| Вайцяхоўскі Збігнеў | 21.12.1925 Гродна | Ст.стралец | 8.8.44 Langannerie (Францыя) |
| Валеўскі Вітольд | 22.5.1920 Даляцічы (Навагрудак) | Стралец | 20.8.44 Langannerie (Францыя) |
| Высоцкі Станіслаў | 8.5.1922 Хвалава (Ваўкавыск) | Стралец | 17.8.44 Langannerie (Францыя) |
| Вялічка Вінцэнт | 20.11.1918 Валожын | Ст.стралец | 29.9.1944 Ломель(Бельгія) |
| Гандзікевіч Вітольд | 10.6.1917 Пецярбург | Падпаручнік | 30.6.1945 Хален (Германія) |
| Галавач Лявон | 1.7.1921 Ішчальняны (Шчучын) | Стралец | 14.8.44 Langannerie (Францыя) |
| Грыневіч Васіль | 17.9.1923 Дрэцк (Лунінец) | Стралец | 28.12.44 Эдынбург (Шатланд) |
| Грынкевіч Гедымін | 5.5.1916 Утрышкі (Ліда) | Стралец | 16.9.1944 Аксэль (Галандыя) |
| Гумоўскі Каміл | 14.8.1924 Кузьмічы (Паставы) | Стралец | 20.8.1944 Лангарыя (Францыя) |
| Драгун Баляслаў | 16.1.1924 Дубровы (Маладэчна) | Стралец | 18.8.44 Langannerie (Францыя) |
| Жукоўскі Іосіф | 20.10.1925 Аляны (Ашмяны) | Стралец | 20.8.44 Langannerie (Францыя) |
| Жырмонт Эдуард | 14.9.1916 Мігаляўцы (Ваўкавыск) | Звязовы | 20.8.44 Langannerie (Францыя) |
| Емільянчык Сцяпан | 13.3.1915 Елка (Слонім) | Капрал | 5.11.1944 Брэда (Галандыя) |
| Каліноўскі Іосіф | 19.3.1914 Ямбрыкі (Шчучын) | Звязовы | 2.10.1944 Ломель (Бельгія) |
| Канчас Іосіф | 25.12.1914 Янаўшчына (Навагрудак) | Стралец | 18.8.44 Langannerie (Францыя) |
| Карповіч Казімір | 13.12.1905 Ляснік (Вілейка) | Стралец | 17.10.1944 Оксфард (Англія) |
| Кміт Уладзіслаў | 17.10.1917 Засулле (Стаўпцы) | Стралец | 11.8.44 Langannerie (Францыя) |
| Касцевіч Франц | 10.12.1900 Яхевічы (Вілейка) | Стралец | 17.9.1944 La Clinge (Бельгія) |
| Касцюк Андрэй | 25.3.1904 Кавалі (Косава) | Капрал | 3.10.1944 Ломель (Бельгія) |
| Качынскі Франц | 20.9.1923 Усялюб (Навагрудак) | Ст.стралец | 11.8.44 Langannerie (Францыя) |
| Ковель Аляксандр | 1.6.1910 Дубовае (Дзісна) | Капрал | 8.9.1944 ? Бельгія |
| Красней Мікалай | 15.4.1910 Хомічы (Пружаны) | Стралец | 20.8.44 Langannerie (Францыя) |
| Кур'яновіч Сцяпан | 22.11.1923 Ганевічы (Нясвіж) | Стралец | 29.10.1944 Oosterhout (Галан) |
| Лапінскі Вацлаў | 20.5.1911 Мінск | Падпаручнік | 5.10.1944 Альфэн (Галандыя) |
| Ленец Уладзіслаў | 10.5.1918 Самаровічы (Ваўкавыск) | Стралец | 12.8.44 Langannerie (Францыя) |
| Ліхтаровіч Іосіф | 19.3.1900 Мінск | Маёр | 20.8.44 Langannerie (Францыя) |
| Лукашэвіч Казімір | 3.3.1916 Яскевічы (Гродна) | Стралец | 15.8.44 Langannerie (Францыя) |
| Ляскоўскі Альфонс | 11.4.1920 Жылянка (Ліда) | Ст.стралец | 5.4.1945 Тыльбург (Галандыя) |
| Ляўковіч Іван | 21.11.1910 Калодна (Столін) | Стралец | 16.9.44 побач з каналам Аксаль |
| Мартун Іосіф | 18.7.1911 Эйшышкі (Навагрудак) | Капрал | 21.8.44 Langannerie (Францыя) |
| Мандравіцкі Сігізмунд | 24.12.1924 Ваўкавыск | Стралец | 9.8.44 Langannerie (Францыя) |
| Мехерынскі Іван | 9.11.1905 Крухавічы (Лунінец) | Звязовы | 10.8.44 Langannerie (Францыя) |
| Міцкевіч Аркадзь | 13.1.1915 Друга (Браслаў) | Звязовы | 25.12.1945 Мюнстэр (Герман) |
| Мякшыла Аляксей | 8.3.1909 Мароскі (Маладэчна) | Ст.стралец | 1.8.44 Langannerie (Францыя) |
| Начай Павел | 27.9.1910 Пруднікі (Валожын) | Ст.стралец | 17.9.1944 La Clinge (Бельгія) |
| Парангоўскі Канстанцін | 25.5.1910 Вілейка | Капрал | 1.11.1944 Антвэрпен (Бельгія) |
| Парневіч Франц | 19.12.1919 Удзял (Дзісна) | Стралец | 13.4.1945 Veel (Галандыя) |
| Патапчык Вацлаў | 14.3.1914 Путрышкі (Гродна) | Звязовы | 9.8.44 Langannerie (Францыя) |
| Пятручык Васіль | 25.3.1905 Лускалы (Брэст) | Ст.стралец | 17.4.45 Klasinaeven/Emmel (Гал) |
| Рапейка Вацлаў | 13.5.1913 Лапенькі (Гродна) | Капрал | 2.9.44 Yque-Beuf/Cailly-Abeville (Францыя) |
| Рачыцкі Напалеон | 15.9.1912 Дзісна | Капрал | 14.8.44 Langannerie (Францыя) |
| Рудак Мікалай | 5.5.1920 Забалацце (Дзісна) | Стралец | 17.8(9)44 каля канала Аксэль (Галандыя) |
| Русецкі Іосіф | 12.6.1924 Янін (Ваўкавыск) | Стралец | 11.8.44 Langannerie (Францыя) |
| Сідаровіч Зянон | 1.1.1913 Масвілішкі (Ашмяны) | Ст.стралец | 1.11.1944 Tournhout (Бельгія) |
| Скулінец Іван | 8.12.1912 Ваўкавыск | Стралец | 15.8.1944 Sassy (Францыя) |
| Скур'ят Уладзіслаў | 19.8.1919 Баравікі (Браслаў) | Ст.стралец | 18.8.44 Langannerie (Францыя) |
| Стасюкевіч Аляксандр | 11.12.1910 Казевічы (Ваўкавыск) | Стралец | 17.4.1945 Рэдэ (Германія) |
| Страпко Васіль | 1.1.1909 Заточы (Драгічын) | Стралец | 14. 8.44 Langannerie (Францыя) |
| Суміч Хведар | 3.12.1910 Брэст | Капрал | 2.10.1944 Ломель (Бельгія) |
| Сянкевіч Уладзімір | 13.5.1909 Ажараны (Навагрудак) | Стралец | 29.6.1945 Лінгер (Германія) |
| Сянкевіч Франц | 22.5.1905 Пушча (Ліда) | Звязовы | 18. 8.44 Langannerie (Францыя) |
| Сях Уладзіслаў | 17.12.1908 Хойнічы (Гродна) | Стралец | 29.6.45 Клопэнбург (Германія) |
| Тартоўскі Канстанцін | 3.5.1910 Ніжні Сноў (Нясвіж) | Звязовы | 14. 8.44 Langannerie (Францыя) |
| Томчык Станіслаў | 23.5.1919 Пільчукі (Шчучын) | Стралец | 18.8.44 Ланганерыя (Францыя) |
| Трус Аляксандр | 27.10.1913 Мікашэвічы (Лунінец) | Капрал | 14. 8.44 Langannerie (Францыя) |
| Трусіла Лявон | 16.11.1909 Шкордзь (Шчучын) | Звязовы | 8.9.1944 Ломель (Бельгія) |
| Туронак Ельяш | 20.8.1912 Каўшалева (Браслаў) | Ст.стралец | 10.4.1946 Папэнбург (Германія) |
| Урбановіч Антон | 10.2.1919 Вангі (Ліда) | Стралец | 31. 8.44 Langannerie (Францыя) |
| Хлебавец Андрэй | 22.8.1908 Магільна (Столін) | Ст.стралец | 29.8.1944 Оксфард (Англія) |
| Худзінскі Здзіслаў | 2.2.1925 Марцінковічы (Гродна) | Стралец | 27.2.1946 Хаселюнэ (Германія) |
| Чункевіч Міхаіл | 8.10.1906 Лубянка (Ашмяны) | Ст.стралец | 31.1.1945 Брэда (Галандыя) |
| Чурык Міхаіл | 8.12.1902 Шандубра (Гродна) | Ст.стралец | 2.1.1946 Мэпен (Германія) |
| Чыжэўскі Іосіф | 23.8.1907 Граева (Шчучын) | Ст.улан | 30.6.1943 Newmarket (Англія) |
| Швэдзюк Пётр | 15.12.1925 Палаповічы (Пінск) | Ст.стралец | 14. 8.44 Langannerie (Францыя) |
| Шулак Міхаіл | 9.8.1918 Вялькі (Ваўкавыск) | Стралец | 14.9.1944 Stekene (Бельгія) |
| Шулік Браніслаў | 15.4.1909 Паляны (Вілейка) | ? | 31.12.1944 Брэда (Галандыя) |
| Шульга Мікалай | 19.12.1912 Шастакі (Вілейка) | Кананер | 27.3.1945 Брэда (Галандыя) |
| Шумскі Лявон | 9.1.1905 Ашала (Шчучын) | Стралец | 13.1.1945 Ломель (Бельгія) |
| Шырвель Браніслаў | 5.7.1910 Баравіка (Валожын) | ? | 31.1.1945 Брэда (Галандыя) |
| Філіпчык Антон | 20.4.1917 Вял.Сворства (Баранавічы) | Стралец | 2.11.44 Ramsdonksver (Галандыя) |
| Юрэвіч Вінцэнт | 5.5.1914 Карчоўшчына (Маладэчна) | Ст.стралец | 21.4.1945 Рэмбес (Германія) |
| Ярач Сігізмунд | 4.2.1922 Брэст | Стралец | 9.8.44 Remennesnil (Францыя) |
| Ярашук Франц | 30.3.1919 Шурычы (Ваўкавыск) | Стралец | 20. 8.44 Langannerie (Францыя) |

** У большасці выпадкаў месцы гібелі пазначаны назвамі падводных і надводных суднаў, на якіх загінулі вайскоўцы. Напрыклад, «Аркан» – гэта польская падводная лодка, затопленая Крыгсмарынэ ў Паўночным моры.*

*** Парашутысты, месца смерці якіх у польскіх вайсковых крыніцах пазначана як горад – Арнэм, належалі да 1-га і 2-га батальёнаў 1-й асобнай парашутнай брыгады, якія бралі ўдзел у вядомай аперацыі паветрана-дэсантных войскаў саюзнікаў «Маркет-Гардэн». Яны былі выкінуты першымі дзеля захопу горада, але ў хуткім часе патрапілі ў акружэнне. Жаўнеры, месца смерці якіх трапляе на 21–29.X.1944 у Галандыі, належалі да 3-га батальёна, які быў выкінуты каля суседняга з Арнэмам мястэчка Дрыль з мэтай прабіць акружэнне і вызваліць аднапалчан. 1-ы і 2-і батальёны, не прарваўшы варожае кальцо, былі цалкам знішчаны. Рэшткі 3-га батальёна з вялікімі стратамі здолелі праз Рэйн прарвацца да сваіх.*

*Працяг спісаў будзе*

# Сон і характар

***Каб не памыляцца адносна чалавека, трэба ведаць, у якой позе ён спіць***

Позы, якія людзі прымаюць у часе сну, могуць шмат што паведаць пра канкрэтную асобу. Прафесар Крыс Ідзікоўскі, адзін з аўтарытэтных брытанскіх экспертаў, сцвярджае, што знайшоў прамую залежнасць паміж звычнымі позамі людзей у часе сну і індывідуальнымі якасцямі іх характару.

Ідзікоўскі вызначыў шэсць розных позаў, кожная з якіх можа больш паведаць пра характар чалавека, чым сам чалавек нават у моманты шчырасці. **Самая папулярная поза, асабліва распаўсюджаная сярод жанчын, – «плод».** Сапраўды, 41 працэнт усіх рэспандэнтаў і 51 працэнт апрошаных жанчын заявілі, што ім зручна спаць на баку, скруціўшыся «калачыкам» і пры гэтым рукамі адымаючы падушку. Па сцвярджэнні эксперта, людзі, якія прымаюць у часе сну такую позу, могуць толькі здавацца жорсткімі, але «ў сапраўднасці» з'яўляюцца чуллівымі і сарамлівымі.

**Поза «марской зоркі»** – чалавек спіць на спіне, раскінуўшы рукі ў бакі, – характэрная для людзей, якія ўмеюць слухаць суразмоўцу, лёгка заводзяць знаёмствы, але не любяць быць у цэнтры ўвагі і лёгка саступаюць ініцыятыву іншым.

Радзей за ўсё людзі спяць **у позе «свабоднага палёту»** – на жываце. Такую позу прымаюць толькі 6,5 працэнта людзей. Людзі з гэтакай звычкай знешне вельмі таварыскія і дзёрзкія, але за такім упэўненым відам хаваюцца нервовыя натуры, якія не могуць крытычна ставіцца да сябе. З гэтай прычыны і яны самі ,і іхнае атачэнне часта трапляюць у стрэсавыя сітуацыі.

**Поза «салдацікам»** – чалавек спіць на спіне, выцягнуўшы рукі «па швах», – характэрная для спакойных і ўраўнаважаных асобаў, якія здольныя выстаўляць да сябе высокія патрабаванні.

**Поза «бервяно»** – гэта звычайны сон на баку з выцягнутымі ўніз рукамі, уласцівая людзям з мяккім характарам.

**«Летуценнік»** – такі ж самы сон на баку, але з выцягнутымі ўверх рукамі, - поза, характэрная для цынікаў і асобаў, якім уласцівая падазронасць.

«Мы ўсе ведаем мову чалавечага цела. Але тут гаворка, як правіла, ідзе аб тым стане чалавека, калі ён актыўны. І вось упершыню ўдалося ўбачыць тое, пра што гаворыць нашая падсвядомасць», – адзначыў прафесар Ідзікоўскі.

Цікава, што сэнс позы часта не супадае з тым, чаго мы чакаем. Напрыклад, тыя людзі, якія спяць у позе «свабоднага палёту» і займаюць большую частку ложка, у сапраўднасці болей значную частку сваёй індывідуальнасці хаваюць. Можа яны самі здзіўляюцца, калі гэтая прыхаваная частка сябе праяўляе. Людзі наогул рэдка стараюцца асэнсаваць сваю псіхічную індывідуальнасць, каб усведамляць наступствы сваіх эмоцыяў – раптоўнага гневу, які цяжка ўтаймаваць, палкага захаплення, якое змяняецца самотай расчаравання і г. д.

Асобы, якія аддаюць перавагу позе «свабоднага палёту», нягледзячы на пэўныя цяжкія рысы свайго характару, могуць суцешыць сябе тым, што гэтакая поза станоўча адбіваецца на функцыях страўніка. Для тых, хто спіць у позе «марской зоркі» і «салдацікам», характэрныя бяссонніца і схільнасць да храпу. Даследаванне таксама паказала, што змены позаў у часе сну гэтак жа малаверагодныя, як і перамена мужам і жонкай бакоў ложка, на якіх яны звыкліся спаць. Наш характар пануе над намі.

Тэрэза КАВАЛЮК

## Манастырская навука



**Гэты здымак засведчыў унікальнае майстэрства манахаў заходняй часткі кітайскай правінцыі Гуйчжоу. «Ступенямі для выбраных» называецца шлях па 10-метровым слупе, у які ўваткнуты 36 з вострым лязом нажоў.**

# «Verbum»: спачатку было слова. Беларускае

Бадай, самай цікавай фанаграфічна-культурніцкай падзеяй апошніх месяцаў у Беларусі крытыкі небеспадстаўна называюць выданне трэцяга па ліку альбома медыявільнага гурта «Стары Ольса» «Verbum». Пры тым, што аналагічных па структуры прац у еўрапейскіх краінах выдадзена дастаткова, такога кшталту альбом выходзіць у нашай краіне ўпершыню. Нагадаем, што «Verbum» з лацінскай мовы перакладаецца як «слова». І новы альбом «Старога Ольсы» пабудаваны як спроба вербальнай рэканструкцыі этапаў станаўлення і развіцця беларускай мовы ад XII стагоддзя.



Якія крыніцы паслужылі музыкам у якасці ўзораў для стварэння гістарычна-фанетычнай панарамы беларускай мовы? Пра гэта распавядае кіраўнік гурта «Стары Ольса» спадар Зміцер Сасноўскі:

– На дыску адноўлена стылістыка чытання старадаўніх баладаў XII стагоддзя. Пад двое гусляў у беларускай фанетыцы мы прадставілі ўрыўкі са «Слова пра паход Ігаравы», якія звязаныя з падзеямі ў Беларусі.

Далей мы аднавілі манеру зачытвання старадаўніх, XVI стагоддзя, рэнэсансных тэкстаў на лацінскай мове. І тут мы звярнуліся да славутай «Песні пра зубра» Міколы Гусоўскага, якую зачыталі ў арыгінале ў суправаджэнні лютні. Так «Песня пра зубра», на нашу думку, магла выконвацца ў княскіх пакоях вялікага князя...

Акрамя гэтага, мы ўзнаўляем традыцыю чытання артыкулаў «Статута Вялікага княства Літоўскага». Для гэтага нам давялося «прасвятліць» фанетыку старабеларускай мовы, той мовы, на якой напісаны «Статут ВКЛ». Тут нам прыйшлося звяртацца па кансультацыі да спецыялістаў – А.Каляды, А.Жлуткі, В.Вячоркі. З іх дапамогай мы паспрабавалі імітаваць сітуацыю, калі на сярэдневечнай ратушнай плошчы ў 1588 годзе зачытваюцца самыя галоўныя ўрыўкі з новапрынятай Канстытуцыі краіны – са «Статута ВКЛ». Там мы пастараліся аднавіць і гук натоўпу, і гучанне інструментаў, якія звычайна гралі на ўрачыстасцях – беларускіх дудаў.

А апошняе – мы звярнуліся да творчасці А.Міцкевіча, да яго геніяльнага «Пана Тадэвуша». Адтуль мы зачыталі два ўрыўкі ў арыгінале на польскай мове. Але наўмысна мы не імкнуліся аднаўляць чыстую польскую фанетыку, а чытаць з беларускім акцэнтам, з якім размаўляў сам Адам Міцкевіч. На дыску мы запісалі вельмі патрыятычныя ўрыўкі з «Пана Тадэвуша», дзе ён прызнаецца ў любові да Радзімы – да сваёй Літвы: «Litwo! Ojczyzno moja!»

Але не толькі лінгвістычнымі распрацоўкамі цікавы новы альбом знанага гурта. Вельмі яскравымі падаюцца музычныя рэканструкцыі ўдзельнікаў «Старога Ольсы», якія сталіся часткай агульнага гукавога палатна, а таксама арганічным дадаткам да вершаваных радкоў. Думаю, слухачы з задавальненнем адновяць у сваёй памяці мелодыі «Полацкага сшытка», пазнаёмяцца з творамі кампазітара В.Длугарая (калі не паспелі гэта зрабіць, слухаючы дыск «Легенды Вялікага Княства»), з уласнымі стылізацыямі гурта, такімі, як «Курган», «Паход», «Шлях»...

Цікава, што паэтычныя радкі, «Слова пра паход Ігаравы», «Песні пра зубра» М. Гусоўскага, артыкулаў «Статута Вялікага княства Літоўскага» суправаджаюцца мелодыямі ў выкананні гусляў, лютні і дуды, якія, на думку складальнікаў дыска, найбольш адпавядаюць той ці іншай эпосе, адлюстраванай на гэтай кружэлцы. Зноў жа, здзіўляе маляўнічасць тэмбраў беларускіх старажытных інструментаў, якія гучаць на дыску сакавіта і выразна.

Усё гэта пазбаўляе «Verbum» аднапланавасці і суму – рысаў, якія часта адштурхоўваюць слухачоў ад музычнай медыявілістыкі. Упэўнены, што цудоўныя мелодыі даўніны не аднойчы ўскалыхнуць іх фантазію і ўяўленне, прымусяць па-новаму асэнсаваць падзеі сівой даўніны, пра якія яны неаднойчы чыталі ў кнігах...

Не прыніжаючы выканаўчага майстэрства іншых выканаўцаў «Старога Ольсы», хацелася б падкрэсліць тую значную ролю, якую выканаў на запісу лідэр гурта Зміцер Сасноўскі. Думаю, пасля праслухоўвання гэтага дыска, прыхільнікаў адраджэння беларускай дуды значна паболее. Бо гучанне яго старадаўняга інструмента ў творах «Паход», «Там за холмам», у сярэдневечным «Танцы», у рэканструкцыі чытанняў на ратушнай плошчы не могуць не захапляць. Як не можа не захапіць артыстызм Зміцера пад час цытавання старaславянскіх тэкстаў са «Слова пра паход Ігаравы» ці яго рэнэсансная ўзнёсласць і распеўнасць у «Песні пра зубра», патрыятычнасць і падкрэсленая веліч, што выявілася пад час цытавання артыкулаў са «Статуту Вялікага княства Літоўскага»...

Безумоўна, гукавая палітра запісу альбома «Verbum» не была бы поўнай, калі б не выканаўчае майстэрства і чаруючыя гукі флейтаў К.Радзівілавай, гусляў і колавай ліры А.Чумакова, лютні і мандаліны І.Кубліцкага, бубнаў А.Апановіча. Адчуваецца, што ўсе разам, гурт «Стары Ольса», – выдатная каманда аднадумцаў, якой пад сілу самыя складаныя творчыя праекты.

Альбом «Verbum» выйшаў у свет дзякуючы падтрымцы МГА «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», з якой гурт «Стары Ольса» стала супрацоўнічае ў арганізацыі канцэртаў для беларускай дыяспары за мяжой. «Verbum» стане добрым падарункам і дадаткам да канцэртных уражанняў нашых суайчыннікаў, а тутэйшым беларусам – яшчэ адной яскравай згадкай пра шматвяковую гісторыю краіны.

**Анатоль МЯЛЬГУЙ**

Новы Час
Галоўны рэдактар
Алена АНІСІМ

Заснавальнік: Мінская гарадская арганізацыя ТБМ імя Ф.Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1798 ад 25 сакавіка 2002.
Адрас: 220005, Мінск, вул. Румянцава, 13
E-mail: nchas@promedia.by

Рэдактар нумару Канстанцін Тарасаў
Камп'ютэрная вёрстка Андрэй Дзегцяроў
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні УП «Светач».
Ліцэнзія ЛП № 187 ад 09.01.2003 г.
220030, Мінск, вул. Першамайская, 7. Замова № 1758
Падпісана да друку 23.09.2003 (12:00).
Наклад 2 300 асобнікаў.
Газету можна атрымаць у сядзібе ТБМ па адрасе:
Мінск, вул. Румянцава, 13, тэл. 288-23-52, 284-85-11